№ 28 (865) 30 ліпеня 2014 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГА... ТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы... выходзіць што...а, у се...




Юнакі купаюць коней у абмялелай Дзвіне насупраць Сафійскага сабора. Гэта, можа быць, апошні такі год тут. Пасля пабудовы Полацкай ГЭС узровень ракі ўзнімецца на два метры, і гэтыя пясчаныя пярэспы сыдуць глыбока пад ваду.

# Паліна Шуба: мадэль №1

Старадарожская прыгажуня дабілася прызнання ў мадэльным бізнэсе.

Старонкі 6–7

## У абарону вышыванкі

Альгерду Бахарэвічу адказвае Стась Карпаў. **Старонка 15**.

# Забраць нельга пакінуць

У прыёмнай маці з Клімавічаў забралі шэсць дзяцей.

28 ліпеня мусіў адбыцца суд. «Я дыябетык, а ў пятніцу мяне пратрымалі ў міліцыі 12 гадзін без ежы», — пакрыўджаная Ірына Моцная.

Яшчэ некалькі тыдняў таму пад апекай Ірыны ў дзіцячым доме сямейнага тыпу ў Клімавічах было шэсць непаўналетніх дзяцей. Аднак усё абрынулася.



### Першая ў раёне

Сям'я Моцных вядзе сваю гісторыю ад 1999 года, калі Ірына і яе муж Віктар Моцны афармілі апеку над дзяўчынкай Натальяй. Потым Віктар і Ірына сталі прыёмнымі бацькамі яшчэ некалькіх дзяцей.

«У 2008 годзе па праграме «Дзеці Беларусі» для нас быў пабудаваны катэдж. Калі мы ў яго засяліліся, кіраўніцтва вобласці прапанавала нам адкрыць дзіцячы дом сямейнага тыпу. Мы пагадзіліся і ўзялі яшчэ траіх дзяцей. Наша сям'я стала першай у Клімавіцкім раёне, хто арганізаваў такі дзіцячы дом», — расказвае Ірына.

### Загадкавы суіцыд

Паваротным пунктам для Моцных стала трагічная смерць мужа Ірыны Віктара.

6 чэрвеня ў дом Моцных патэлефанавалі з мінскай Бальніцы хуткай дапамогі і паведамілі, што іх былая выхаванка, 19-гадовая Хрысціна, якая цяпер жыве і навучаецца ў Мінску, праз разрыў са сваім хлопцам здзейсніла спробу самагубства — наглыталася таблетак.

Моцныя паехалі ў Мінск, але Віктар вырашыў не ісці ў палату і застаўся ля аўтамабіля. Калі сям'я вярнулася, то не знайшла Віктара на месцы. Праз некаторы час яго адшукалі ўжо нежывога: Віктар павесіўся ў скверы побач з бальніцай.

Ірына кажа, што не можа растлумачыць крок свайго мужа. У тэлефоннай размове Ірына паведаміла, што да свайго самагубства Віктар знаходзіўся ў дэпрэсіі. «Мой муж быў чалавекам ціхім, а нас замучылі праверкамі», — расказала Ірына. Яна таксама ўзгадала пра нейкія «чуткі», што распускала пра яе мужа. Аднак што паслужыла падставай для праверак і чутак, Ірына не патлумачыла.

Трэба ўзгадаць, што ў сярэдзіне красавіка 2014 года да 15 гадоў турэмнага зняволення быў прысуджаны памочнік выхавацеля дзіцячага дома сямейнага тыпу са Светлагорскага раёна, які гвалтаваў прыёмных дзяўчат. Можна дапусціць, што мясцовыя чыноўнікі пасля гучнага выпадку вырашылі праверыць і сям'ю Моцных. Для перастрахоўкі. Версія «няправільных» адносінаў у клімавіцкім прыёмным доме атрымала вялікую папулярнасць у інтэрнэце.

Аднак сама Хрысціна называе дадумкі «абуральнымі» і кажа, што не рабіла спробу суіцыду, а памылкова прыняла трошкі больш за патрэбную дозу седатыўных, бо сапраўды рассталася са сваім хлопцам і моцна перажывала. Самагубства прыёмнага бацькі ў дзень яе шпіталізацыі называе выпадковым.

### Адабраць — і кропка

Можна доўга рабіць здагадкі, але што насамрэч падштурхнула Віктара да суіцыду, цяпер высвятляе Следчы камітэт.

Трагічная гібель выхавацеля — сапраўды падстава для клопату. Таму аддзел адукацыі Клімавіцкага райвыканкама вырашыў забраць у Ірыны прыёмных дзяцей, звольніць яе з пасады выхавацелькі і расфарміраваць дзіцячы дом.

«9 ліпеня камісія чыноўнікаў прыйшла ў наш дом, а 12 ліпеня ўжо было гатовае рашэнне аблвыканкама аб расфарміраванні дзіцячага дома сямейнага тыпу. 15 ліпеня мне перадалі пастанову аб звальненні», — кажа Моцная.

Яе звольнілі паводле арт. 47.3 Працоўнага кодэкса (здзяйсненне работнікам, які выконвае выхаваўчыя функцыі, амаральнага ўчынку, несумяшчальнага з працягам дадзенай працы). Што гэта за ўчынак, нідзе не пазначана», — кажа Ірына.

Дзеці Ірыны хацелі застацца ў Клімавічах. Яшчэ 12 дзён пасля рашэння аблвыканкама яны заставаліся ў доме Моцных. Усё скончылася 25 ліпеня, калі Ірына везла старэйшага с ына ў Мінск, падаваць дакументы ў вучэльню.

Аўтамабіль Ірыны спынілі за 13 кіламетраў ад Клімавічаў, яе саму затрымалі. Цяпер Ірыну чакае суд за самаўпраўства, паседжанне якога і было перанесена праз дрэннае самаадчуванне жанчыны. Прыёмныя дзеці цяпер жывуць у сацыяльнай вёсцы ў Магілёве. Самой Моцнай з жыллёвага камітэта ўжо даслалі прадпісанне вызваліць будынак.

Ірына кажа, што ёй няма куды ісці. «Мне цяпер вельмі патрэбна дапамога, у першую чаргу псіхалагічная», — кажа яна.

### «Было дастаткова фактаў»

Каб забраць дзяцей з прыёмнай сям'і, не трэба даводзіць справу да суду — рашэнне прымаюць мясцовыя ўлады.

Намесніца начальніка аддзела адукацыі Клімавіцкага райвыканкама Тамара Навумава адзначыла, што «дзеці знаходзяцца ў бяспечным месцы, іх жыццю нішто не пагражае і з імі працуюць псіхолагі».

Tut.by цытаваў начальніцу аддзела Наталлю Глушакову: калі адзін з выхавацеляў забівае сябе, у сям'і штосьці не так. Аднак у гутарцы з карэспандэнтам «НН» Глушакова заявіла, што журналісты партала перакруцілі яе словы. Глушакова запэўніла, што Моцная «добра ведае ўчынак, за які яе звольнілі».

«У палажэнні аб дзіцячых дамах сямейнага тыпу агаворваецца, што ў выпадку смерці аднаго з выхавацеляў пытанне аб далейшым функцыянаванні дзіцячага дома выносіцца на паседжанне выканкама ў абавязковым парадку, — кажа Глушакова. — Але гэта не асноўная прычына. Ёсць многа ўсялякіх фактаў, і калі ўсё гэта зліваецца ў адно... Ведаеце, складаецца не вельмі добрае ўражанне. У мяне было дастаткова фактаў, каб забраць дзяцей», — кажа Глушакова.

### Помста за скаргу?

Моцная, у сваю чаргу, упэўнена, што сітуацыя з дзіцячым домам — помста ёй за скаргі: «Катэдж для дзіцячага дома пабудавалі, але не абсталявалі. Дах працякаў. Перад апошнімі прэзідэнцкімі выбарамі я здолела трапіць да намесніка старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю. Некаторыя начальнікі мне адкрыта паграджалі: маўляў, як адкрылі дзіцячы дом, так яго і закрыем. Але ў іх не было кампрамату, дзеці заўсёды былі дагледжаныя, добра паспявалі ў школе. Калі ж загінуў мой муж, я была аслабленая, і чыноўнікі выбралі менавіта гэты момант, каб адпомсціць», — стаіць на сваім жанчына.

Кірыла Хілько

## Сцісла

### Летась у Беларусі выявілі 22 тысяч новых алкаголікаў

Пры пераліку на 100 тысяч насельніцтва найбольшая колькасць новых хворых выяўлена на Гродзеншчыне (273 чалавекі) і Магілёўшчыне (261 чалавек). Агулам жа на ўліку стаіць 190 609 алкаголікаў. Сярод хворых на алкагалізм 18% — жанчыны.

### Злачынец гвалтаваў, сябар фатаграфаваў

У Навабеліцы (Гомель) міліцыянты затрымалі мужчыну, які згвалціў дзяўчыну ў лесе, у той час як яго сябар здымаў працэс згвалтавання на мабільнік. Гвалтаўнік спачатку адмаўляў злачынства, але, убачыўшы здымкі, прызнаўся. Раней ён быў асуджаны за забойствы.

### Вагоны ў метро будуць бірузова-белымі

Беларуская-швейцарская кампанія «Штадлер» стварае новыя вагоны для мінскага метро. Па словах кіраўніка метрапалітэна Расціслава Юрэні, спачатку прапаноўвалася зрабіць вагоны бела-чырвонымі. Аднак урэшце быў абраны бірузова-белы варыянт. Мяркуецца, першы састаў трапіць у эксплуатацыю ў пачатку 2016 года.

ЯМ

## Апытанні на nn.by

### Ці ўхваляеце Вы ініцыятыву стварэння атрада «Пагоня»?

| | | |
|---|---|---|
| Так, беларусы павінны дапамагаць Украіне | 757 | 63% |
| Не, беларусы не павінны ўмешвацца | 146 | 12% |
| І так, і не, бо дапамагаць трэба мірнымі сродкамі, а не ваяваць | 212 | 18% |
| Устрымаюся ў дадзеным пытанні | 83 | 7% |

Прагаласавала 1198 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 23—29 ліпеня

1. Tut.by: У Мінску нявечаць машыны з расейскай сімволікай ФОТЫ
2. Расійскі салдат «Укантакце»: «Усю ноч дзяўблі па Украіне» ФОТА
3. Задорнаў: Збіццё «Боінга» арганізавалі амерыканцы, а Украіну трэба накрыць ракетным агнём
4. Твары «ДНР» і «ЛНР»
5. Беларуская турфірма зняла рэкламны матэрыял «з-за падтрымкі ўкраінскіх бандэраўцаў»
6. У інтэрнэце набірае папулярнасць новая аватарка — літара Пуй ФОТА
7. Расійская гебельсяціна: топ-10 фактаў
8. «Вежлівые людзі» пад Мінскам
9. 9 рэчаў, якія мы толькі што даведаліся пра Пуціна
10. 1984 год. Студэнт-філосаф здзейсніў публічнае самагубства ў галоўным корпусе БДУ

# Бяляцкі: Ідзе паўзучы захоп – эканамічны і ідэалагічны

Адразу пасля вызвалення з турмы праваабаронца, кіраўнік незарэгістраванага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі здзейсніў **турнэ па Еўропе**.

Ён наведаў Вільню, Варшаву, Брусэль, Страсбург і Парыж. Спадар Бяляцкі расказаў пра вынікі візіта і бягучую палітычную сітуацыю.

**«Наша Ніва»: Вы гаварылі пра недапушчальнасць «азербайджанізацыі» Беларусі. Для гэтага ёсць перадумовы?**

**Алесь Бяляцкі:** Заўсёды ёсць. Цяпер гэта не так адчувальна. А вось у перыяд 2008—2009 гадоў пагроза «азербайджанізацыі» вельмі адчувалася. Тады для Еўрасаюза галоўным партнёрам стаў урад, а грамадзянская супольнасць была адсунутая на другі план. Тое самае тычыцца сітуацыі з правамі чалавека. Прагматычныя інтарэсы часткі еўрапейскай вярхушкі маглі тады пераважыць. Сёння, на шчасце, пазіцыя Еўрасаюза цвёрдая: у Беларусі не можа быць палітвязняў. Гэта пытанне нумар адзін. Калі палітвязні выйдуць на волю, можна будзе ўздымаць іншыя праблемы — найперш свабодных і справядлівых выбараў. Чаму я кажу пра Азербайджан? Гэта краіна, дзе ёсць вялікі ціск на грамадзянскую супольнасць, на СМІ, у турмах сядзяць палітвязні. Разам з тым азербайджанскае кіраўніцтва актыўнічае ў Еўропе. Азербайджан цяпер старшынюе ў Радзе Еўропе — арганізацыі, якая і стваралася для падтрымання правоў і свабод.

**«НН»: Візіт у Мінск міністра замежных справаў Літвы спадара Лінкявічуса кладзецца ў гэты шэраг?**

**АБ:** Цяжка сказаць. Ацэнкі гэтага візіту досыць супярэчлівыя. Беларускі кіраўнік МЗС сп.Макей наўздагон візіту не вельмі прыгожа выказаўся аб Еўропе, сказаў аб «зашоранасці» еўрапейскіх палітыкаў. Таксама Макей сказаў, што бакі дамовіліся наконт будаўніцтва беларускай АЭС на мяжы з Літвой. Але ці праўда гэта? Прапаганда будзе выкарыстоўваць гэты візіт у сваіх інтарэсах.



**«НН»: Ёсць меркаванне, што ва ўмовах расійскай агрэсіі ва Украіне любыя кантакты афіцыйнага Мінска з Еўрасаюзам карысныя?**

**АБ:** Трэба быць вельмі асцярожным з гэтым. Я разумею ўсе небяспекі, але вырашаць іх трэба не коштам зніжэння планкі ў пытанні правоў чалавека.

**«НН»: Беларусь сёння цікавая Еўропе? Што вы можаце сказаць пасля сваіх візітаў?**

**АБ:** Канечне, Украіна адцягвае ўсю ўвагу. Рабіў усё магчымае, каб зноў актуалізаваць тэму. Я казаў, што ўвесь рэгіён — Беларусь, Украіну, Малдову — трэба разглядаць разам, а не паасобку. Калі Еўропа пакіне Беларусь без увагі, яна можа атрымаць тут вельмі непрыемны сюрпрыз.

**«НН»: Што вы маеце на ўвазе?**

**АБ:** Татальную русіфікацыю. І тут пытанне не толькі ў мове. Ідзе такі паўзучы захоп — эканамічны, культурны, ідэалагічны. Вы ж бачыце, які ўплыў на нашых грамадзян маюць расійскія СМІ.

**«НН»: У вас ёсць спадзяванне ці прадчуванне, што іншыя палітвязні ў хуткім часе могуць выйсці на волю?**

**АБ:** Вельмі хацелася б. Але ведае гэта толькі адзін чалавек.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**



Група байцоў добраахвотніцкага атрада «Пагоня» — беларусаў, якія збіраюцца ваяваць супраць сепаратыстаў на Данбасе — праходзіць падрыхтоўку перад адпраўкай на фронт. «На выходных да хлопцаў была адвезеная перадача з неабходнымі на вайне рэчамі: бронекамізэлькамі, тактычнымі акулярамі, пальчаткамі, накаленнікамі, налакотнікамі, разгрузкамі ды іншымі рэчамі. Частку з іх атрымалася здабыць бясплатна, частка была набытая за сабраныя праз [беларуску] Таццяну Елавую сродкі», — пішуць байцы.

## Афіцыйная біяграфія начальніка ІАЦ Дзербіна: служыў у МУС, СК, КДБ

Працяглы час пасля прызначэння Аляксея Дзербіна кіраўніком Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта дзяржаўныя СМІ не давалі біяграфію гэтага чалавека. Што зусім не дзіва, бо ў адкрытым доступе не было і біяграфіі яго папярэдніка Аляксандра Базанава.

Тым не менш, дзяржаўнае агенцтва БелТА змясціла кароткія звесткі аб жыцці чыноўніка. Сярод таго, што раней не было вядомым: «Праходзіў службу ў органах унутраных спраў, Следчым камітэце, Камітэце дзяржаўнай бяспекі». Таксама агучылі, што Дзербін жанаты і гадуе дачку.



Былы ж кіраўнік ІАЦ Аляксандр Базанаў стаў намеснікам генеральнага дырэктара ААТ «Белтэлекам». Да ІАЦ Базанаў працаваў прэс-сакратаром КДБ.

**ЗП**

Кадры

## «Вочы і вушы прэзідэнта»

Аляксандр Лукашэнка прызначыў Вольгу Кананюк (на фота) намеснікам кіраўніка Белтэлерадыёкампаніі. Яна змяніла Алену Гулевіч, якую называлі «вачамі і вушамі прэзідэнта» на тэлебачанні. Гулевіч, якая прыйшла на ТБ з Міністэрства фінансаў, сачыла за тым, каб тэлевізійнікі не расходавалі занадта шмат грошай. Былы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей назваў казаў, што з прыходам Гулевіч «стала з'яўляцца рэальная карціна фінансавага стану тэлебачання».

А Лукашэнка назваў дакараў кіраўніка БТ Генадзя Давыдзьку, што той растрачвае грошы без дазволу Гулевіч. «Траціць мільярды рублёў незразумела на што», — казаў Лукашэнка. Гулевіч будзе пераведзеная на іншую працу, магчыма, пойдзе на павышэнне.



Што тычыць Вольгі Кананюк, то на тэлебачанні яна будзе выконваць ранейшыя функцыі Гулевіч. Кананюк да гэтага працавала начальнікам эканамічнага ўпраўлення Міністэрства культуры.

**ЗП**

Цытата

### Рэдактар «Анлайнера» пра бел-чырвона-белы сцяг



«Беларусы не адчуваюць сябе нацыяй, не атаясамліваюць з грамадскасцю па нацыянальнай прыкмеце. Вінаваціць у гэтым прынята савецкія ўлады, але на самай справе савецкія ўлады для росту нацыянальнай самасвядомасці рабілі больш за ўлады цяперашнія (больш — не шмат, проста больш). А вось улады цяперашнія паслядоўна згортвалі нацыянальныя настроі, бачачы ў гэтым пагрозу стабільнасці саміх сябе.

Дзіўна, але сітуацыя ва Украіне наглядна дэманструе, што толькі адзіная нацыя можа заставацца рэальнай прыладай у барацьбе за незалежнасць.

Выкажу тут жа думку, што толькі адно вяртанне бел-чырвона-белага сцяга і «Пагоні» ў якасці герба можа стаць моцным інструментам па аб'яднанні нацыі», — напісаў галоўны рэдактар сайта Onliner.by Дзяніс Блішч у сваім блогу. «Анлайнер» — адзін з найпапулярнейшых беларускіх сайтаў.

Сцісла

### Галоўнакамандуючым ДНР стаў кадэбіст з Прыднястроўя

Самаабвешчаны «прэм'ер-міністр» так званай Данецкай народнай рэспублікі Аляксандр Барадай выехаў у Расію. Яго абавязкі ўзяў на сябе экс-міністр дзяржбяспекі Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі Уладзімір Анцюфееў.

### Гігін: Самалёты падаюць тады, калі гэта выгадна амерыканцам

«Магчыма, катастрофа малайзійскага «Боінга» сапраўды вынік жахлівай, трагічнай памылкі, выпадковасці. Магчыма... Хоць усе мы бачым, хто імкнецца атрымаць выгаду з гэтай бяды. І тое, што ўплывовыя дзяржавы, дзяржаўныя дзеячы выкарыстоўваюць гэтую трагедыю ў сваіх мэтах, у літаральным сэнсе робяць палітыку на трупах — зусім не выпадковасць, а хутчэй фірмовы стыль, почырк, які занадта добра знаёмы», — напісаў ідэолаг Вадзім Гігін у сваім блогу на сайце БелТА.

### Макаеў атрымаў 15 сутак

Прадпрымальнік Аляксандр Макаеў арыштаваны на 15 сутак. Такое рашэнне вынес суд Маскоўскага раёна Мінска. 27 ліпеня — у дзень аднаўлення беларускай незалежнасці — Макаеў узняў бел-чырвона-белы сцяг на плошчы Незалежнасці, побач з Чырвоным касцёлам.

**ЗП**

# У Мінску нявечаць машыны з расейскай сімволікай

Пра гэта піша сайт tut.by.

«Ніколі не бачыў, каб у Беларусі так не любілі рускіх!» — усклікае 23-гадовы Міша, які даслаў у рэдакцыю фатаграфіі свайго пакарабачанага Mersedes.

Міша, хоць і беларус, але нямала працаваў у Расіі, любіць гэтую краіну, асабліва за гульню зборнай па хакеі. У знак асаблівага стаўлення ездзіць з расійскай сімволікай «на борце». У апошні час гэтую сімволіку сталі зрываць, а машыну — нявечыць. З такой жа агрэсіяй сутыкаюцца ў Мінску і расіяне.

Вечарам 20 ліпеня Міша ўбачыў сваю пашкоджаную машыну на стаянцы каля парку Горкага. «Былі прабітыя два бакавыя колы. На шынамантажы мне сказалі, што ў колах тры дзіркі шылам зрабілі. У мяне машына яркая. Сцяжкі расійскія на капоце, па баках налепкі ў колер сцяга расійскага. Іх таксама шылам здзіралі.

На шынамантажы нават не здзівіліся, расказалі, што я не першы такі. Майстар сказаў, што да іх чалавек на рускіх нумарах прыязджаў з такімі ж трыма дзіркамі, адзін у адзін. Той кліент, аказалася, прыехаў латаць дзіркі, а на наступны дзень яму яшчэ раз прабілі, і ён зноў быў вымушаны ехаць мяняць шыны, — распавёў Міша.

Малады чалавек — беларус, аднак шмат часу працаваў у Расіі, там у яго шмат сваякоў. Ён і яго бацькі лічаць, што вандалізм у дачыненні да машын з расійскай сімволікай звязаны з падзеямі ва Украіне.

«Кажуць, што зараз рускіх не любяць. А чаго не любіць? Правільна, яны падтрымліваюць свайго прэзідэнта. Але нават калі вы хочаце падтрымаць Украіну, то падтрымка Украіны не павінна выяўляцца ў тым, каб зрабіць іншаму народу дрэнна. Гэта не падтрымка. Падтрымка — гэта звярнуцца да дзяржавы. Звяртайцеся да Пуціна! Навошта вы рускім робіце дрэнна? Я ўвогуле заўзятар, я не нацыяналіст. Я не лезу ў палітыку! Я не думаў, што такое стаўленне да рускіх у нас наогул можа быць, хоць першая «ластаўка» была ў маі», — кажа Міша. Менавіта падчас чэмпіянату свету па хакеі ён упершыню ўбачыў агрэсію ў адносінах да расійскай сімволікі. Тады Міша расказваў, што ў адзін з вечароў вымушаны быў хавацца ў машыне, бо яго ледзь не пабілі. Акрамя таго, з машыны сарвалі ўсе расійскія сцягі.

Але заяву ў міліцыю ён напісаў толькі пасля апошняга выпадку: «Я бачу, што гэтае хуліганства становіцца рэгулярнымі». Міша кажа, што і далей будзе ездзіць з расійскай сімволікай.

У сярэдзіне мая шыны ў машыне з расійскімі нумарамі прабілі супермадэлі Кацярыне Даманьковай, якая выйшла замуж за расійскага мільярдэра-нуварыша Антона Зінгарэвіча. Яна ўбачыла ля пад'езда сваю машыну з прабітымі шынамі і пабітым шклом. Побач стаялі машыны з беларускімі нумарамі, якія не пацярпелі.

«Што гэта, людзі? Адкуль у вас столькі нянавісці? Чаму з-за такіх вырадкаў я павінна сябе адчуваць небяспечна ў маёй Беларусі? Гэтая краіна не для падонкаў. <...> Мяне вырашаюць пакараць за тое, што я звязаная з Расіяй. Так будзьце вы не звязаныя з ёй 1000 разоў! Ваша пакаранне ўжо грукаецца да вас у дзверы ў выглядзе барадатай «жанчыны» — палохала тады беларусаў Еўропай мадэль у сваім Instagram.

На публікацыю Tut.by адгукнулася жанчына, расійскі сцяг якой падпалілі. Яшчэ адзін малады чалавек — 28-гадовы Міхаіл — некалькі гадоў таму прыехаў у Беларусь з Расіі. Цяпер у яго беларускі пашпарт, а на машыне хоць і беларускія нумары, сімволіка — расейская. У той жа дзень, што і 23-гадовы Міша, ён выявіў дзірку ад кулі ў лабавым шкле. «Упершыню такое бачу, — кажа Міхаіл. — Ніколі ў Беларусі не было раней такой варожасці».

**Паводле: Кацярына Сінюк, tut.by**


След падобны да кулі на машыне з расійскімі нумарамі.



Месцы праколаў пазначаныя крэйдай.

**Фотафакт**


У інтэрнэце набірае папулярнасць новая аватарка — літара Пуй, водгулле папулярнай крычалкі пра Пуціна.

**Водгук**

# Ціха, памяркоўна, па-сямейнаму

Да «Юлія Чарняўская: Адлічваць трэба масава!» (№23).

Год 25 таму, пачынаючы працу ва ўніверсітэце, трапіў выкладаць прадмет у групах толькі што ўведзеных, самых прэстыжных на той час эканамічных спецыяльнасцей з велічэзным (не меней за дзясятак прэтэндэнтаў на бюджэтнае месца) конкурсам пры паступленні. Якое ж было здзіўленне, калі ўбачыў падчас першых жа заняткаў замест здольных да здабыцца ведаў маладых людзей, без перабольшання, фірмовых пэтэвушнікаў. Не толькі не зацікаўленых у авалоданні праграмай і пашырэнні кругагляду, але, у дадатак да ўсяго, яшчэ і элементарна кепска выхаваных, хамаватых, а-ля фанвізінаўскага Мітрафанушкі, недарасткаў.

Адказ на пытанне, як магло такое стацца, адшукаўся ў пайменным спісе груп, што так і стракацелі прозвішчамі прадстаўнікоў уладнага бамонду гарадскога і абласнога разліву. Які, маркуючы па ўсім, і клопату іншага не меў, як толькі дачакацца годнага працаўладкавання ўласных шэрагаў за кошт запаўнення працоўных вакансій згаданымі недаросткамі. Што праз пяць год акурат і адбылося. Паапіраўшы нахілымі плечукамі сцены калідораў установы ў надзеі атрымаць падчас сесіі ў залікоўку хоць якую адзнаку, адны (як правіла разумнейшыя, ды недастаткова саноўныя) па атрыманні дыплома адчыняць уласны бізнес падаліся, другія (як правіла, з ліку горшых, але не без саноўнае падтрымкі) — у лёгкае рукі камісіі па размеркаванні — у чыноўных кабінетах, неадольным жаданнем эканоміку «падымаць» гнаныя, паспяхова атабарыліся.

Дробнасць, маштабам абшараў «некарумпаванае» краіны адпаведная? Напэўна. Галоўнае ж — ціхамірна, памяркоўна, без гвалту, амаль па-сямейнаму. Рэктар ці прарэктар, дарма што людзі на словах вунь як прынцыповыя, у сітуацыі «просьбы» з боку вышэйшых функцыянераў складзі для старшыні экзаменацыйнай камісіі спісы абітурыентаў, на якіх «варта звярнуць увагу» падчас уступных іспытаў, за непад'ёмны цяжар ці абразліве не палічаць. А не атрымаецца наўпрост — іншым макарам уладкуюць справу. Залічаць памянёнага Мітрафана на факультэт па падрыхтоўцы якога-небудзь непрэстыжнага ткача ці механіка, а праз год туды, куды зверху «просяць» кроў з носу ўладкаваць, вачэй у сабакі пазычыўшы, перавядуць. Спатрэбіцца, дык і з іншай ВНУ, і не аднаго, а чалавек пяць-шэсць уваднагчас на прэстыжную спецыяльнасць уладкуюць.

Прыкладна тое самае і з выкладчыцкімі кадрамі. На адной з гуманітарных кафедраў няпоўная стаўка вызвалілася, дык рэктар асабіста не паленаваўся прыйсці на паседжанне і распісаць вобразна, з павышэннем ды паніжэннем голасу, які незаменнаю кадрэсай мае намер неўзабаве тую кафедру ашчасліваць. І насамрэч «ашчасліўі», дазволіўшы калегам дзеля наскрэбвання вучэбных гадзін сваёй прэтэжэ няпоўныя стаўкі з аплатаю як за поўныя. Дзеўка ж зорак з неба не хапала, больш за тое — прадмета свайго не любіла, праз пару год хвастом матлянула ды і падалася ў шэрагі спецыялістаў іншага профілю. Ціхмяная напачатку, з часам узмужнела, набралася пакрысе з гадамі нахабства, партфелем грамадскага дзеяча абзавялася. І будзе доўга ім, мабыць, да сівой барады, з любові да навукі і патрыятычных быццам бы пачуццяў размахваць.

А выкладчык сацыялогіі, выдатны спецыяліст, дацэнт з не адным дзясяткам год стажу, і вокам не паспеў плюснуць, як у выніку закідаў аб нядобранадзейнасці за парогам установы апынуўся. Добра, у іншай заўважылі, далі чалавеку магчымасць дапрацаваць да пенсіі.

Вось такія праявы дробнасці. Быццам бы дробныя дзеі, ды наступствы іх нежартоўныя. Настаўнікі, якія вучыць не ўмеюць. Юрысты, якія паперчыны толкам скласці рады не дадуць. Армады маладзёнаў ды маладзіц, што днямі таўкуцца ў аддзелах крамаў з паперкамі, штосьці ўсё дзеля быццам бы паляпшэння сферы абслугоўвання занатоўваючы-аналізуючы. Кіраўнікі розных узроўняў, што ва ўзаемаадносінах з падначаленымі ці з наведвальнікамі не тое што ўважлівымі не будуць, а элементарнымі нормамі прыстойнасці пераняцца іншы раз не палічаць патрэбным. Навукоўцы, якія дзеля дэманстрацыі лаяльнасці да ўлады факты перавернуць і перавернутае тое ў якасці навуковага даследавання, насуперак праўдзе, выдаць на-гара не пасаромеюцца. Паводле завядзёнкі: я табе — хлусню, ты мне — недатыкальнасць.

Прафесарка Юлія Чарняўская ў «НН» ад 23 ліпеня згадвае аб сваёй адпрэчанай калегамі прапанове стварыць у ВНУ элітарныя групы з далейшым уладкаваннем лепшых выпускнікоў на лепшыя месцы. Яно б добра, канечне, было і сёння такое ўвесці, ды хто іх, лепшых, на тыя лепшыя месцы пусціць? Яны ж, як правіла, не афішуюцца, наадварот, яшчэ і прыхоўваюцца, прытрымліваюцца — для «сваіх». Іншымі словамі — даўно размеркаваныя. Чалавек толькі-толькі паспеў паступіць на вучобу, а ўжо дакладна ведае, дзе і кім будзе праз пяць год працаваць. І ў выніку якраз ён, дарма што сцены падчас сесіі падпірае, сваім азадкам па атрыманні дыплома запаветнае лепшае месцейка і ашчасліваць.

Прыкладна тое самае і з адлічэннем. Адлічыўшы за непаспяховасць якога-небудзь студэнта-няздару Карпеню, трэба і гэткага ж, калі не горшага, Пятрэню дзеля імітацыі справядлівасці адлічыць. А хто там ведае, што за дзядзька за Пятрэнем стаіць і што за варушэнне навукола гэткай рызыкоўнай, неабачлівай акцыі распачнецца? Так што хутчэй рэктар выкладчыка знойдзе падставу адлічыць, чым таго студэнта. І спакайней яму, і ўежней, і напружвацца лішне не трэба. І калегі падтрымаюць — хаця б дзеля захавання ставак, колькасць якіх, вядома, у навучальнай установе наўпрост ад колькасці вучэбных груп, то бок колькасці студэнтаў, залежыць.

Сітуацыя быццам бы новая, карані ж і атожылкі яе — у значнай ступені ўсё там жа, у гадамі, дзесяцігоддзямі люлянай сістэме дробнай карупцыі. Якою ў нас быццам бы, калі афіцыёзу веры даваць, нават і не пахне. Ты — мне, я — табе: памяркоўна, ціха, па-сямейнаму лагодна. Дробнасць, што неўпрыкмет, але непазбежна трансфармуецца ў праблему дзяржаўнага значэння.

**Франц Сіўко, Віцебск**

# Катару падарылі зямлю побач з пасёлкам КДБ

Арабы абгарадзілі **25 гектараў лесу** вакол Дубраўскага вадасховішча.


Від на Дубраўскае вадасховішча. Каля берага будуць жыць спецслужбы, а ў лесе — арабы.

9 ліпеня 2012 Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ «Аб перадачы Дзяржаве Катар зямельных участкаў для будаўніцтва рэзідэнцыі і паляўнічых вальераў». Кіраўнік краіны загадаў падарыць арабам надзелы ў Смалявіцкім і Лагойскім раёнах. Паколькі замежнікі не могуць валодаць беларускай зямлёй, Катару давалі яе ў арэнду на 99 гадоў. Указ быў выдадзены з грыфам «для службовага карыстання», таму ў агульны доступ не трапіў. Абмен зямельнымі ўчасткамі між краінамі часам практыкуецца, аднак невядома, які падарунак быў зроблены Беларусі ў адказ.

Мінаблвыканкам выдзеліў «участак для будаўніцтва і эксплуатацыі рэзідэнцыі» ў красавіку 2013. І вось цяпер катарцы пачалі патрохі асвойваць выдзеленыя землі. Як аказалася, ім дасталася 25 гектараў на беразе Дубраўскага вадасховішча. Гэты вадаём быў створаны 30 гадоў таму як рэзерв для Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Вакол яго з цягам часу пабудавалі дачныя пасёлкі, а на пясчаных пляжах улетку адпачываюць сотні сталічных жыхароў.

Паварот на Дуброву знаходзіцца на 25-м кіламетры трасы М3 «Мінск-Віцебск». За кошт пагорыстага рэльефа з дарогі не бачна ні возера, ні будоўлі.

Кіламетр дарогі па бетонных плітах — і перад вачыма адкрываецца від на раскарчаваны лес. З дзясятак старожак абстаўлены будаўнічай тэхнікай, аднак актыўнасці не відаць.

Падрадчыкам першага этапу будаўніцтва стала кампанія «Маналіт груп». Яе рабочыя закапалі апоры для будучага высачэзнага плота.

Пашпарта аб'екта на будоўлі не відаць. Ахоўнікі тлумачаць, што замоўцы перадумалі і адмовіліся ад ранейшага праекта. Цяпер дакументацыя нібыта перапрацоўваецца.

**Катар**

Абсалютная манархія. Знаходзіцца на Аравійскім паўвостраве.

Краіна займае трэцяе месца ў свеце па запасах прыроднага газу. Па ВУП на душу насельніцтва — першае месца ў свеце.


Вакол катарскай рэзідэнцыі будзе фундаментальная агароджа.

Супрацоўніцтва з Катарам з беларускага боку курыруе памочнік кіраўніка краіны Віктар Лукашэнка. Сярод катарскіх праектаў будаўніцтва спарткомплексу і пяцізоркавага гатэля на праспекце Пераможцаў у Мінску, каля футбольнага манежа. Праект ацэньваецца ў $100 мільёнаў

Катарцаў чакае цікавае суседства. Летась літаральна за сто метраў ад іх былі створаны яшчэ адзін дачны пасёлак. Садовае таварыства «Багута-2» налічвае каля 40 надзелаў зямлі на беразе вадасховішча. Новыя гаспадары яшчэ не паспелі дабудаваць свае палацы. «Багута-2» — далёка не просты пасёлак. Сярод уласнікаў зямлі — спрэс 30—40-гадовыя мужчыны, імёны якіх невядомыя ні грамадству, ні інтэрнэту. Некаторыя з іх зарэгістраваныя ў будынку Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Дый старшыня садовага таварыства — начальнік аддзела галоўнага ўпраўлення КДБ.

А вялікае поле паміж трасай і катарскім лесам належыць прафесару Пятру Сінкевічу — гэта адзін з уласнікаў гандлёва-забаўляльнага комплекса «Экспабел». Зямлю каля Дубраўскага вадасховішча — а гэта амаль 48 гектараў! — яму выдзелілі для вядзення фермерскай гаспадаркі. Сінкевіч атрымаў яе ў пажыццёвае валоданне з правам перадачы ў спадчыну.

**Ягор Марціновіч**

# Гаагскі суд прысудзіў Расію да выплаты $50 мільярдаў

Уладальнікаў нафтавай кампаніі ЮКАС прызналі пацярпелымі.

Расія прайграла судовы працэс, які доўжыўся амаль дзесяць гадоў. Трацейскі суд у Гаазе палічыў, што Расія парушала Энергетычную хартыю, і фактычна прызнаў, што нафтакампанію экспрапрыявалі. Суд ініцыявалі былыя акцыянеры нафтавай кампаніі ЮКАС. Група кампаній «Менатэп» патрабавала кампенсацыю $114 мільярдаў, але суд ацаніў страты прыкладна ў $50 мільярдаў. Акрамя таго, Расія павінна аплаціць выдаткі судовага працэсу ў памеры $65 мільёнаў. Крыніцы «Камерсанта» называюць рашэнне палітычным і лічаць, што Расія паспрабуеануляваць яго.

У 2003 годзе дзяржава абвінаваціла ЮКАС у нясплаце падаткаў, прэзідэнт і асноўны акцыянер кампаніі Міхаіл Хадаркоўскі быў арыштаваны. Ад усіх судовых разбораў вакол кампаніі бізнэсмен з тых часоў дыстанцыяваўся, да гэтага працэсу ён не мае ніякага дачынення.

**«Камерсант»**

## У Расіі — $975, у Польшчы — $1280

Наколькі **беларускія заробкі** адстаюць ад суседніх?

Паводле дадзеных Белстата, сярэдні заробак у чэрвені дасягнуў 6,2 мільёна рублёў. Гэта $610 у эквіваленце. У параўнанні з мінулым месяцам заробак вырас на 60 тысяч рублёў і дасягнуў максімума за гэты год. Аднак летась лічбы даходзілі да $622.

А вось налічаны чэрвеньскі заробак у Мінску перавысіў 8,21 мільёна рублёў. Гэта $809. Больш толькі на Салігоршчыне. Праўда, тут паспелі падлічыць толькі грошы за май. У апошні месяц вясны мясцовым жыхарам у сярэднім налічылі $881.

У суседніх краінах заробкі вышэйшыя. Днямі Федэральная служба дзяржаўнай статыстыкі Расіі апублікавала дадзеныя аб сярэднім заробку ў краіне ў чэрвені.

Паводле іх, работнікі зараблялі «брудным» па $975. Разбежка між самымі дарагімі і самымі беднымі рэгіёнамі агромністая. Напрыклад, у Чукоцкай аўтаномнай акрузе ў маі зараблялі ў сярэднім па $2280, а ў Маскве — $1670. На адваротным баку спісу Дагестан ($535). А вось Крым у сваю статыстыку расейцы пакуль не ўключаюць.

Расійскія заробкі, у сваю чаргу, не дацягваюць да польскіх. Паводле мясцовых падлікаў, у чэрвені работнікам налічылі ў сярэднім па $1280.

**ЯМ**

## Сцісла

### Пенсіі вырастуць на 7,5%

З 1 жніўня працоўныя пенсіі вырастуць у сярэднім на 7,5% — прыблізна на 180 тысяч рублёў. У ліпені сярэдняя пенсія склала 2,4 мільёны. Сёлета дапамога сталым беларусам павялічвалася ў лютым.

### Ліміт на пасылкі з-за мяжы павялічылі да 200 еўра

Новая норма бяспошліннага ўвозу тавараў для асабістага карыстання ў міжнародных паштовых адпраўленнях, агульная вага якіх не перавышае 31 кг, уступіць у сілу праз тры месяцы. Беларусы масава карыстаюцца такім спосабам атрымання танных тавараў праз замежныя інтэрнэт-крамы, перадусім кітайскія.

### Літва пераходзіць на еўра з 1 студзеня

Рада Еўрасаюза зацвердзіла ўключэнне Літвы ў еўразону. Курс абмену літа на еўра застанецца на ўзроўні 3,4528 літа за еўра. Гэты курс дзейнічае ў краіне ўжо 12 гадоў. Па падліках Банка Літвы, праз увядзенне еўра ў краіне цэны вырастуць прыкладна на 0,2-0,3%.

### Бамбардзір каманды Лукашэнкі атрымаў надзел каля праспекта Пераможцаў

Аляксандр Лукашэнка сваім указам №365 ад 21 ліпеня дазволіў аддаць кампаніі «Тапас» кавалак зямлі побач з заказнікам «Лебядзіны» пад пабудову шматфункцыянальнага комплексу. Гэты ўчастак на вуліцы Браслаўскай каля праспекта Пераможцаў. Комплекс будзе называцца «Алімпік Парк». Многія звязваюць сакрэт поспеху «Тапаса» з яго́ным менеджарам Паўлам Белым, які гуляе ў прэзідэнцкай хакейнай камандзе.

### Урала Латыпава ўзялі ў назіральную раду «Альфа-Банка»

Былы міністр замежных спраў і кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта башкір Урал Латыпаў стаў адным з трох незалежных дырэктараў у складзе назіральнай рады беларускага «Альфа-Банка». З дзяржаўнай працы ён сышоў у 2004-м і стаў працаваць у бізнэсе.

**ЯМ**

# Паліна Шуба: мадэль

Старадарожская прыгажуня дабілася прызнання ў **мадэльным бізнэсе**.

Сёлета расійская журналістка Ксенія Сабчак запыталася ў Аляксандра Лукашэнкі пра дзяўчат, з якімі той ходзіць на разнастайныя мерапрыемствы.

«У апошні раз, па-мойму, з Палінай сядзелі, вядучай. З 12 гадоў яе ведаю!» — прызнаўся Лукашэнка.

Праз некалькі дзён пасля гэтага інтэрв'ю журналісты пагутарылі з цешчай кіраўніка дзяржавы, Аленай Жаўняровіч. Лукашэнка вельмі хваліў яе ў размове у Сабчак.

Цешча паказала свой фотаальбом. Самым цікавым у ім аказаўся здымак, на які трапіла вялікая кампанія гасцей. На фота, апроч самога Аляксандра Лукашэнкі, сын Віктар, тэнісны трэнер Сяргей Цяцерын, мільянер Аляксандр Шакуцін са сваёй пратэжэ — спявачкай Алёнай Ланской, асабістая доктарка Святлана Канашэнка... і Паліна Шуба.

Чым жа адметная Паліна, што Аляксандр Лукашэнка бярэ яе ў падарожжа па родных мясцінах сяброўскім колам?


Глядзець разам з Лукашэнкам матч Беларусь—Фінляндыя паклікалі менавіта Паліну.


Шуба — Мельпамена (злева) на фасадзе Тэатра оперы і балета.

«Наша Ніва» расказвае гісторыю ўзлёту дзяўчыны.

### «Твар новага стагоддзя»

Жыццё школьніцы са Старых Дарог Паліны Шубы перакулілася ў 2003 годзе.

Мадэльная школа «Тамара» вось ужо некалькі гадоў ладзіла конкурс «Твар новага стагоддзя». Сотні дзяўчат з усёй Беларусі дасылалі свае здымкі, самыя прыгожыя з іх траплялі на старонкі «Советской Белоруссии».

Канкурсанткам мусіла быць ад 15 да 25 гадоў. Маладых і перспектыўных забірала сабе «Тамара» — уласніца школы Тамара Ганчарова, адна з першых беларускіх мадэляў.

Паліна Шуба даслала свой здымак, як толькі ёй споўнілася 15 гадоў. Фота адразу было надрукаванае, дзяўчынка трапіла ў паўфінал конкурсу, і яе запрасілі ў «Тамару». А гэта магчымасць «засвяціцца» на мадэльных паказах ва ўсім свеце.

Але не толькі гэта. Генеральным партнёрам «Твару новага стагоддзя» выступаў Пётр Лістэрман, які перацягваў беларусак у Маскву. Імя расійскага героя свецкай хронікі грымела ў сярэдзіне гламурных 2000-х. Лістэрман не хаваў крыніцы свайго асноўнага прыбытку — ён зводзіў мадэлек з алігархамі. Тавар штучны, таму і аплата была адпаведная.

## «У класе ўсе хлопчыкі былі закаханыя ў Паліну!»

Зрэшты, некаторыя знаходзілі сваё каханне і без ягонай дапамогі. Напрыклад, на першым са штогадовых конкурсаў найлепшай фотамадэллю была прызнаная Ксенія Рубчэня. Праз некалькі гадоў пасля перамогі яна выйшла замуж за тэніcіста Максіма Мірнага.

А Шуба ўсё ж апынулася ў Маскве. Праўда, не адразу. Кантракт з расійскім агенцтвам «ФрэшМадэлс» яна падпісала пасля ўдзелу ў «Міс Беларусь — 2008».

### Мадэль-разумніца

У грамадстве існуе стэрэатып пра мадэлек. Часцяком іх успрымаюць як недалёкіх асобаў. Але прыклад Паліны сведчыць пра адваротнае.

Апошнія гады вучобы ў школе ёй давялося сумяшчаць з моднымі паказамі, але гэта не перашкодзіла дзяўчыне атрымаць залаты медаль.

«Гэта быў вельмі разумны клас, усе паступілі адразу! Пяцёра медалістаў. І адна з іх Паліна», — узгадвае класная кіраўніца дзяўчыны. Настаўніца матэматыкі Старадарожскай школы №2 Марыя Жукавец адпрацавала амаль паўстагоддзя і толькі сёлета сышла на спачын.

«Паліна была старанная, роўная вучаніца. У яе што замежная мова, што літаратура, што матэматыка — усё ўдавалася. Хоць ёй бліжэй усё ж філалагічныя прадметы», — расказвае яна. Марыя Васілеўна адзначае, што менавіта на Паліне ляжала адказнасць за правядзенне мерапрыемстваў. «Заўсёды трэба, каб быў завадатар у класе. І ўсё было на ёй», — кажа класная кіраўніца.

### Кветкі для Лукашэнкі

Апроч мадэльнага бізнэсу, Паліна займалася яшчэ і танцамі. У мясцовы ансамбль «Расінка» яна прыйшла ў 6 гадоў і засталася там да канца школы. Аляксандр Лукашэнка казаў, што даўно знаёмы з Палінай. Як кажуць былыя аднакласнікі дзяўчыны, шмат у чым дзякуючы «Расінцы».

Летам 2001 года ва ўсёй краіне ішла перадвыбарчая кампанія. Апазіцыйныя кандыдаты абіралі між сабой «адзінага», а Аляксандр Лукашэнка катаўся па краіне. Нібыта па справах, але ў райцэнтрах на ягоным шляху мясцовымі ўладамі ладзіліся вялікія мітынгі ў падтрымку «кандыдата Лукашэнкі».

У Старых Дарогах прыезд кіраўніка дзяржавы прымеркавалі да адкрыцця Палаца культуры. Мясцовая «раёнка» некалькі нумароў запар, захлёбваючыся, расказвала пра ўражанні шчаслівых удзельнікаў сустрэчы з Лукашэнкам.

## «У цябе адзінай на конкурсе еўрапейскія рысы твару»

На гэтым свяце менавіта 13-гадовай Паліне Шубе даручылі перадаць кветкі кіраўніку дзяржавы. Чаму менавіта ёй?



На сайце «Тамары» дагэтуль ёсць партфоліа Паліны Шубы.

# нумар адзін

«Паліна з дзяцінства вылучалася выдатнай знешнасцю, была адной з найлепшых у «Расінцы», дый сама з вельмі добрай сям'і. Усё гэта ў суме і прывяло да таго, што выбралі менавіта яе», — разважае аднакласніца Ірына Жукава.

Да сям'і Шубаў у горадзе ставяцца з павагай. Тата Сяргей узначальвае Старадарожскія раённыя электрычныя сеткі, а ягоная жонка Людміла працуе спецыялістам у Цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Дарэчы, апроч Паліны, у сям'і ёсць старэйшы сын Ілля. Ён пайшоў бацькавай дарогай і таксама стаў энергетыкам.

У Старых Дарогах жыве трохі больш за 10 тысяч чалавек. Большасць дамоў у горадзе адна- і двухпавярховыя. І толькі некалькі высокіх. У адным з іх у пачатку 1990-х і пасяліліся Шубы. Суседзі адгукаюцца пра сям'ю выключна станоўча.

### Балгарскае каханне

«Гэта было залатое дзіця, ніякіх праблем з ёй ніколі не было. Такая выхаваная, добразычлівая... — узгадвае пра Паліну класная кіраўніца. — І прыгожая, вядома. У класе ўсе хлопчыкі ў яе былі закаханыя!»

Ці былі звязаныя з Палінай прыгожыя рамантычныя гісторыі? Аднакласнікі не расказваюць падрабязнасці.

«Калі Паліна ездзіла ў Балгарыю, у яе там быў мясцовы хлопчык, па-мойму, Іван. Вось там была рамантыка ў яе! Такая любоўмаркоў была... Ну, вы разумееце, падлеткавы ўзрост, усё такое. Гэта ў класе восьмым было», — узгадвае адну з гісторый аднакласніца Юлія Жбанкова.

### Студэнтка-мадэль

У сваіх інтэрв'ю Паліна Шуба казала, што заўсёды марыла стаць журналісткай. Аднак на цэнтралізаваным тэставанні пайшла здаваць свае профільныя прадметы — матэматыку і англійскую мову.

«Па балах праходзіла на бюджэт у Беларускі дзяржаўны тэхнічны ўніверсітэт, вось і пайшла вучыцца туды», — тлумачаць аднакласнікі.


TUT.BY
У гасцях у цешчы Лукашэнкі. Паліна Шуба — другая справа.


ODNOKLASSNIKI.RU
Сяргей і Любоў Шубы выхавалі дачку-прыгажуню.


Параметры мадэлі — 85-62-88
FASHIONTIME.RU

Падчас навучання Паліна працягвала працаваць у мадэльным бізнэсе, напрыклад, была адным з твараў «Мілавіцы».

У 2007-м Шуба ўдзельнічала ў беларускім адборы на конкурс «Супермадэль свету». Атрымаць гран-пры не выйшла, затое прыз глядацкіх сімпатый канала АНТ дастаўся ёй. А ў наступным, 2008-м, Паліна трапіла ў лік 12 фіналістак «Міс Беларусь».

«Пасля фіналу да Полі падышла Тамара Ганчарова. Яна прыабняла яе за плечы і сказала: «Шуба, ты шыкоўная. Павер, ты раскошная дзяўчына, у цябе адзінай на конкурсе еўрапейскія рысы твару». Гэта было так шчыра! Пасля фіналу ўсе ўдзельніцы накіраваліся на банкет у гасцініцу «Планета». Прэзідэнт таксама прысутнічаў», — расказвала маці Паліны.

### На заробках у Маскве

У маі 2008 года па выніках конкурсу «Міс Беларусь» дзяўчына падпісала кантракт з АНТ, паводле якога на працягу года не мела права браць удзел у рэкламных паказах і здымацца ў рэкламе. Але неўзабаве Паліна перавялася на завочную форму навучання і з'ехала ў Расію.

Прычына? «Каб зарабіць грошай на ўласнае жыллё самастойна, без дапамогі бацькоў. У Мінску гэта нерэальна», — тлумачыць Ірына Жукава.

У каталогу маскоўскага мадэльнага агенцтва «Фрэш» Паліна з'явілася ў пачатку 2009 года і пратрымалася там да восені 2011 года.

«Заставацца за мяжой яна не хацела. Маскву ніколі не любіла і жыла толькі марай хутчэй назаўжды вярнуцца ў Мінск, — працягвае Ірына. — Век мадэлі нядоўгі. Калі зразумела, што ўжо час вяртацца на радзіму і будаваць сваё жыллё — вярнулася».

### Скульптура Паліны

Вясной 2009 года пасля рэканструкцыі ўрачыста адкрываўся мінскі Тэатр оперы і балета. На фасадзе былі ўсталяваныя статуі грэцкіх герояў. Злева, калі стаяць тварам да тэатра, знаходзіцца муза трагедыі Мельпамена. Яе ляпілі... з Паліны Шубы.

«На пошук натуршчыц я адправіўся ў мадэльнае агенцтва, дзе што ні дзяўчына, то патэнцыйная муза. Подыум літаральна асеў ад напліву прэтэндэнтак, але калі прадэфілявала Паліна, усе патухлі», — расказваў «Рэспубліцы» скульптар Генадзь Буралкін, аўтар статуй Мельпамены і Палігімніі. «Асабліва важна было перадаць складкі тканін, — узгадвала Шуба. — Для гэтага даводзілася апранаць вільготныя сукенкі і гадзінамі стаяць у застылай позе». У выніку вобраз дзяўчыны назаўсёды застаўся ў мінскай культурнай прасторы.

## У Маскву паехала, каб зарабіць на жыллё ў Мінску і вярнуцца

### Месца пад сонцам

Пасля вяртання з Масквы Паліна рэалізавала мару дзяцінства і трапіла на экран. Яна ўладкавалася на працу ў Белтэлерадыёкампанію. Шубу можна ўбачыць у «Навінах» і — радзей — у «Панараме». Альбо на ўрачыстых мерапрыемствах поруч з Аляксандрам Лукашэнкам. Калі яны паспелі пазнаёміцца бліжэй?

Знаёмыя Паліны не даюць дакладнага адказу. Нехта мяркуе, што прыгажуня запомнілася кіраўніку дзяржавы яшчэ сваімі ўдалымі выступамі на конкурсах прыгажосці. Нехта ўзгадвае, што Шуба як журналістка суправаджала Лукашэнку падчас некалькіх замежных візітаў, напрыклад, у Венесуэлу.

Наглядзеўшыся тэлевізара, суседзі жартам называюць Паліну «нашай першай ледзі». Яны пераканаlittleя, што за іхнюю каралеву прыгажосці не будзе сорамна ні ў якой сітуацыі.

Ягор Марціновіч

# Навукоўцы сфатаграфуюць усе тонкасці развіцця жывых істот

Рост чалавека можна будзе адсачыць з дакладнасцю да асобнай клеткі.



Даследчыкі з Медыцынскага інстытута Говарда Х'юза правялі прэзентацыю маштабнага праграмнага комплексу, над распрацоўкай якога яны працуюць апошнія два гады. Гэтая праграма, выкарыстоўваючы велізарную колькасць здымкаў, атрыманых пры дапамозе спецыялізаванага мікраскопа, дазваляе прасачыць увесь працэс росту і развіцця жывога арганізма, пачынаючы ад эмбрыёна і заканчваючы дарослай асобінай, дэталізуе гэты працэс да ўзроўню асобна ўзятых клетак і візуалізуе ўсё гэта адпаведным чынам.

«Нашай мэтай з'яўляецца высвятленне ўсіх тонкасцяў «плана», якім кіруецца прырода, ствараючы жывых істот. Гэта можна высветліць, толькі адсочваючы ўвесь працэс развіцця істоты ад самай ранняй стадыі да самай позняй, пры гэтым мы павінны мець магчымасць назіраць за рухам і дзяленнем кожнай клеткі арганізма жывой істоты, якая развіваецца, — расказвае Філіп Келер, вучоны з інстытута Говарда Х'юза. — Самым вялікім прадметам нашай цікавасці з'яўляецца развіццё і фарміраванне нервовай сістэмы, і мы збіраемся сабраць усю інфармацыю аб працэсе развіцця кожнай асобна ўзятай нервовай клеткі».

Праблема, з якой сутыкаюцца навукоўцы, якія займаюцца падобнымі даследаваннямі, заключаецца ў тым, што эмбрыёны істот нават аднаго віду ў працэсе развіцця могуць мець розныя формы.

Першым выпрабаваннем працы праграмы стала адсочванне працэсаў развіцця нервовай сістэмы мушкі-дразафілы. Атрыманыя тысячы здымкаў дазволілі адсачыць паходжанне 295 клетак-нейрабластоў — клетак, якія з'яўляюцца папярэднікамі нервовых клетак. А пры дапамозе функцыі прагназавання праграмы навукоўцы атрымалі магчымасць дакладна прадказаць лёс і функцыі будучых клетак, грунтуючыся на дынаміку развіцця арганізма.

**Лявон Максюта**

**Фотафакт**



**З'явілася анлайн-бібліятэка беларускіх арнаментаў**

«Разам з даследнікамі этнаграфіі нам удалося скласці калекцыю традыцыйных сімвалаў Беларусі з іх значэннямі. Цяпер гэтыя малюнкі можна смела сцягваць. Калі ласка, карыстайцеся на здароўе: сцягвайце, друкуйце, вышывайце, рабіце татуяванкі ці што заўгодна. Дазнавайцеся пра сябе болей!» — пішуць стваральнікі анлайн-бібліятэкі. Яна даступная на блогу этна-электроннага музычнага праекта Šuma. Арнаменты можна спампоўваць у высокай якасці ў фармаце PDF. Адрас сайта: ornaments.shuma.by.

# Беларусь па індэксе чалавечага развіцця займае 53-е месца сярод 187 краін

Лідарамі рэйтынгу чалавечага развіцця ААН з'яўляюцца Нарвегія, Аўстралія і Швейцарыя. Апошнія ж месцы сярод 187 краін належаць Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга і Нігеру.

Беларусь па індэксе чалавечага развіцця займае 53-е месца і знаходзіцца ў групе краін з высокім узроўнем чалавечага развіцця.

У гэтай жа групе краін: Расійская Федэрацыя — на 57-м месцы, Казахстан — на 70-м, Азербайджан — на 76-м, Украіна — на 83-м, Арменія — на 87-м.

Літва, Латвія, Эстонія і Польшча ўвайшлі ў лік краін са звышвысокім узроўнем развіцця.

У трэцюю групу краін з сярэднім узроўнем чалавечага развіцця ўвайшлі: Туркменістан (103-е месца), Малдова (114-е), Узбекістан (116-е), Кыргызстан (125-е), Таджыкістан (133-е).

**БелТА**



Камертон Сяргея Ваганава

# Музей-шоу, альбо Куды падзеўся штык-нож

...Той нямецкі штык-нож з вострымі зазубінамі па краях і рудымі плямамі крыві мы з Яшкам Курцарам знайшлі ў крушнях на спуску ад плошчы Свабоды да Нямігі.

Яшка жыў на задворках рассвідраванага касцёла і музычнай школы, куды мы абодва пайшлі ў першы клас.

Быў 1948 год, толькі распачаўся залаты верасень, калі пасярод урока нешта выбухнула, з расчыненай шыбы акна пасыпалася шкло, а ў паветры адчуўся смуродны пах. Мы кінуліся глядзець. На галінах каштана, якія ледзь не краналіся высокіх вокнаў былога дома губернатара, віселі нечыя вантробы... Праз колькі хвілін мы ўжо ведалі, што гэта вантробы хлопчыка, які спрабаваў раскруціць «лімонку». Тое, што засталося ад яго, хутка некуды звезлі. А ў скверы насупраць яшчэ мо гадзіны дзве нерухома сядзела бабуля, ціхамірна ўгравалася на вераснёвым сонейку. Асколак патрапіў ёй у скроню...

Не, аніякімі трагічнымі выпадкамі і пагрозлівымі папярэджаннямі з боку дарослых немагчыма было ўтрымаць нас ад вандровак па мінскіх крушнях, дзе паміж узнятых на дыбкі рэштках былых будынкаў утварылася столькі загадкавых пячор. Чаго толькі там не было! Штык-нож яшчэ не самае дзіўнае ў параўнанні з іншай зброяй...

Але ён быў цэлы. І на ім была кроў...

І мы панеслі гэты штык-нож у музей.

Я нават не ведаю, ці магчыма з сённяшняга ўяўлення пра музеі лічыць музеем тыя некалькі пакояў на трэцім паверсе старадаўняга будынка на плошчы Свабоды, у якім ад тых часоў і да сёння месцяцца розныя прафсаюзы. Мы гадзінамі хадзілі па тых пакоях, надоўга затрымліваліся ля гарматаў і кулямётаў, разглядвалі выбухоўкі і авіябомбы, саматробныя партызанскія вінтоўкі і аўтаматы, зваленыя ў кучы жалезныя нямецкія крыжы...

Штык-нож прыняў ад нас высокі хударлявы чалавек у чорным пінжаку з медалём і светла-зялёных галіфэ, увабраных у скураныя боты. Распытаў, дзе знайшлі, падзякаваў і, вядома, папярэдзіў, каб па крушнях больш не бадзяліся. «Чулі пра хлопчыка, што падарваўся?»

...Праз шмат, вельмі шмат гадоў я пазнаёміўся з Пятром Лавецкім і спытаў у яго, ці памятае ён пра двух хлапчукоў, што ў 1948 годзе прынеслі ў музей штык-нож. Не, ён не памятаў, такіх штык-нажоў, відаць, ад самага пачатку яго ная працы ў музеі была процьма...

А пачатак гэты прыпаў на 1943 год, калі партызаны атрымалі загад збіраць матэрыялы для будучага музея.

16 ліпеня 44-га, працокчы ўшы ў нястройных шэрагах знакамітага партызанскага парада, былы школьны настаўнік прыйшоў у дом на плошчы Свабоды з партфелем, напоўніцу напакаваным гітлераўскімі крыжамі.

## У найноўшы музей я ішоў з патаемнай надзеяй — адшукаць той штык-нож з плямамі крыві... »

Потым разам з Пятром Ганчаровым пазычылі ў ваенных карэспандэнтаў «віліс» і паехалі ў Лошыцу, куды была звезена зброя партызан. Да «віліса» прычапілі гармату на драўляных колах. Па дарозе нязвыклыя да бруку колы парассыпаліся, «віліс» давялося адпусціць, і яны пайшлі на Чэрвеньскі рынак па дапамогу. Дапамога сустрэлася ў выглядзе мужыка з партызанскім медалём. «Браток, ты чый? Капыльскі? Дапамажы...» Утрох яны цягнулі гармату праз увесь горад, потым — на тры паверх. Так «браток» стаўся першым наведвальнікам музея, які яшчэ не адкрыўся.

...У найноўшы музей пад бліскучым шкляным купалам, што нібыта сімвалізуе зрынуты рэйхстаг, я ішоў з патаемнай надзеяй — адшукаць той штык-нож з плямамі крыві і тую гармату. Але ўжо ад пачатку прагляду зразумеў, што надзея дарэмная. Бо ад той сапраўднасці, з якой нараджаўся музей, і якая, нягледзячы на спробы схаваць непрыемныя для ўладаў бок праўды пра вайну, усё ж захоўвалася ў музеі на Кастрычніцкай плошчы, не засталося анічога.

А-ні-чо-га!

І гэта пры тым, што, мусіць, як ніводны ў былым СССР ці нават у свеце, музей валодае безліччу артэфактаў часоў Другой сусветнай вайны.

Вайны, пасля якой немагчыма было праціснуцца да здабытых першымі супрацоўнікамі музея фотаздымкаў загінулых падчас акупацыі, да акуляраў, жаночых сумачак ды іншых рэчаў з трасцянецкага пекла, па якіх жывыя шукалі сваякоў, сяброў...

Часам адшуквалі. Трагічныя лёсы...

Не, мусіць, не ў артэфактах справа, якія літаральна губляюцца пад коламі, гусеніцамі і крыламі непераможнай армады. Артэфактаў, што сталіся чужынцамі на свяце нахабнага хайтэкаўскага дызайна і ў шоу, зладжаным з дапамогай найноўшых тэхналогій.

І нават не ў «канцэпцыі» — правінцыйным адбітку ідэалагічных штампаў савецкага ГалоўПУРа — справа. Яе, канцэпцыі, увогуле няма. Бо ці можна лічыць канцэпцыяй скіраваны на самазадавальненне ўлады хаос?

Хаос, створаны з фальшывасці і псеўдасімволікі, якая ахоплівае наведвальнікаў яшчэ звонку, ад так званай Трыумфальнай аркі і да чырвонага сцяга над «рэйхстагам»...

...«А ці можна ўключыць гук?» — «Так, можна, — наглядчыца залы, жанчына ў гадах, цяжка ўзнялася з крэсла, падышла да вялізнага, амаль у палову сцяны, экрана і націснула кнопку. — Прабачце, галава не вытрымлівае слухаць увесь дзень...»

На экране чырвонаармейцы сцягваюць з палутаркі палонных нямецкіх лётчыкаў. Бадзёры голас тлумачыць пра збітыя нямецкія самалёты, вакол іх рэштках гуртуюцца задаволеныя сялянкі ў белых строях...

Хроніка круціцца ў зале, прысвечанай чэрвеню 1941 года, першым дням нападу Германіі на СССР...




# Шалёны марафет:
## Гарадок перад апошнімі Дажынкамі

Гарадок, райцэнтр у Віцебскай вобласці, перажывае звышхуткую рэканструкцыю. Аўральная праца будаўнікоў звышрастратная. Прэм'ер-міністр Мясніковіч незадаволены становішчам. Жыхарам горада нязручна, але прыемна, што «робіцца хоць нешта». Рэпартаж са сталіцы «Дажынак». Апошніх — больш рэспубліканскага свята працаўнікоў вёскі не будзе.

### Перадгісторыя

13 верасня, перад «Дажынкамі» ў Жлобіне, Аляксандр Лукашэнка падпісвае распараджэнне, згодна з якім Рэспубліканскі фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі пройдзе ў Гарадку. Ствараецца аргкамітэт, які выпрацоўвае план мерапрыемстваў. Разам з бюджэтам краіны на 2014 год ухваляецца і бюджэт на «Дажынкі». Аргкамітэт узначальвае намеснік Мясніковіча — Міхаіл Русы.

Мясцовыя ўлады ў Гарадку, адчуваючы маштаб дзярждатацый на рэканструкцыю і развіццё інфраструктуры, паціраюць рукі.

Настваораны аргкамітэт «Дажынак-2014» наведвае Гарадок у лютым і робіць выснову, што сродкаў для падрыхтоўкі да рэспубліканскага свята ў бюджэце хапае толькі на чвэрць ад запланаванага.

10 сакавіка, на спецнарадзе па «Дажынках», Лукашэнка прыняў рашэнне іх адмяніць. Яны «пакідаюць добры след у народа», але ў іх арганізацыі «ёсць пэўныя недахопы».



**«Дажынкі»**

Першыя рэспубліканскія «Дажынкі» прайшлі ў 1996-м у Століне. Пасля гэтага месцам іх правядзення выбіралі яшчэ Шклоў, Масты, Оршу, Маладзечна, Горкі ды іншыя гарады. Кожны раз да «Дажынак» райцэнтры атрымлівалі шматмільярдныя інвестыцыі ў інфраструктуру і сацкультбыт. Цэнтральнай падзеяй свята заўсёды з'яўляўся візіт Аляксандра Лукашэнкі на канцэрт і адкрыццё новых аб'ектаў інфраструктуры. «Дажынкі—2013» у Жлобіне сталі апошнімі ў статусе Рэспубліканскага свята працаўнікоў вёскі.

У канцы сакавіка працоўная група зноў едзе ў Гарадок з новай інспекцыяй і расчараваннем для мясцовай вертыкалі — у Гарадку пройдуць абласныя «Дажынкі». Але рэканструкцыя ўжо распачата, цэнтр горада пераўтвораны ў будпляцоўку, а часу застаецца не так і шмат.

### І помнік Тарасу

Ад вясны Гарадок стаў другім па важнасці «спецаб'ектам» у Беларусі пасля будоўлі Астравецкай АЭС. Замяняецца асфальт на дарозе Віцебск—Гарадок. Высякаецца кустоўе вакол трасаў. Прыдарожнае возера Доўжа чысцяць ад водарасцяў. Вуліцы Гарадка застаўлены будаўнічай тэхнікай. Цэнтр горада нагадвае адну вялікую будоўлю, быццам гэтае месца будуецца з нуля на пустым месцы, як шматлікія гарады «энергетыкаў» і «атамшчыкаў» у савецкі час.

Сотні будаўнікоў — укладчыкаў, экскаватаршчыкаў, муляроў — запаланілі вуліцы мацюкамі.

Цэнтральная плошча ўжо рэканструявана. З фасада Дома культуры на мяне з глазураванай мазаікі шчасліва пазіраюць чырвонаармейцы, працаўнікі сяла і гожыя дзяўчаты, якія збіраюць яблыкі. Леніна з плошчы прыбралі ўбок і заціснулі паміж будынкамі. Цяпер яго пралетарскае вітанне ў будучыню ўказвае на могілкі — з супрацьлеглага боку плошчы месціца мемарыял Вялікай Айчыннай. Насупраць мемарыяла, на тым канцы плошчы, зззяе абноўлены будынак краязнаўчага музея. Шпіль яго даха ўпрыгожвае «Пагоня», герб Віцебшчыны. Такое пазітыўнае адкрыццё, якога ніколі не чакаеш ад кандовых рэканструкцый «пад дажынкі» — дэсаветызацыя і беларусізацыя адным махам.

А яшчэ ж у цэнтры Гарадка ўсталююць і помнік герою паэмы «Тарас на Парнасе». Яна ж тут была напісана шляхціцам Вераніцыным. Гэта калі пра добрае...

### Лепш так, чым было

Пенсіянер Васіль асцярожна выходзіць са свайго пад'езда — яго дом па вуліцы Пралетарскай ў цэнтры рэканструкцыі. У цаглянай трохпавярховай скрыні аднachасова ўцяпляюць, тынкуюць і фарбуць фасад, надбудоўваюць дах з чырвонай металадахоўкі і падводзяць новыя трубы. Адразу перад пад'ездам вялікая яма. «Ну, канечне, трохі цапу-лапу, можа, і трэсне што зімой... Але ўжо лепш так, чым было. Аблуплены Гарадок быў перад «Дажынкамі», — сказаў мне Васіль і, пачакаўшы, пакуль праз двор праедзе вялікі жоўты пагрузчык, пайшоў да ўніверсама, ля якога экскаватарам узрылі ўсю тэрыторыю, каб замяніць стары асфальт на плітку.

Жыхары Гарадка звыкліся з часовымі нязручнасцямі жыцця на будпляцоўцы. Сярод гаспадарскіх справаў у Гарадку самая папулярная — мыццё вокнаў. На тых дамах, дзе муляры паспешліва абнаўлялі фасады неакуратна, заплямлена шмат вокнаў. Гулу тэхнікі не чуваць толькі ў аддаленых раёнах — іх рэканструкцыя не зачапіла.

Спіс запланаванага ўражваў мясцовых жыхароў — новы стадыён, басейн, гандлёвы цэнтр... Але грошай не хапіла. Будаўніцтва басейна не распачалося.

Дарэчы, басейн пабудавалі пад абласныя «Дажынкі» ў Расонах некалькі гадоў таму, а жыхароў там у два разы меней.

Несістэмнасць працы мясцовых чыноўнікаў, каб асвоіць нават прапанаваны бюджэт, праявіла сябе і тут. За чатыры месяцы да свята Гарадоцкі райспажыўсаюз толькі пачынаў шукаць падрадчыкаў для будаўніцтва двух новых будынкаў. Масавая рэканструкцыя «наскокам», калі будаўнічыя брыгады збіраюцца з усяго рэгіёна і наспех рамантуюць дзясяткі аб'ектаў без належнай арганізацыі працэсу, аказваецца неэфектыўнай і растратнай. Гэта пачалі разумець чыноўнікі самага высокага ўзроўню. Візіт прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча з інспекцыяй у Гарадок 25 ліпеня гэта толькі пацвярджае: «Трэба было першапачаткова канцэнтраваць увагу і грошы на тым, што неабходна ў першую чаргу, на тым, што рыхтуецца не проста да «Дажынак», а будзе працаваць для эканомікі Гарадка многія гады. На жаль, размазалі сродкі па многіх аб'ектах, і цяпер трэба ратаваць становішча», — сказаў прэм'ер.







Дзіўна толькі, чаму для Мясніковіча, якому вядомы ўсе пралікі дажынкавых рэканструкцый мінулых гадоў, гэтая выснова стала актуальнай толькі цяпер — падчас падрыхтоўкі да 19-х (!) «Дажынак»?

Цяпер ясна, чаму Лукашэнка сваім рашэннем вясной згарнуў створаны ім жа праект пад назвай «Рэспубліканскія Дажынкі». Так і не склалася гнуткая сістэма кантролю за расходам бюджэтных сродкаў. Не склалася і здаровая сістэма працоўных зносін, якая ўплывае на эфектыўнасць і якасць працы. «Дажынкам», каб стаць аналагам «Актобэрфэсту», не хапіла сучаснага менеджменту, прыватніка. Хаця само свята магло б стаць беларускай культурнай адметнасцю.

Прапануецца адзначаць найлепшых працаўнікоў вёскі ў пачатку года ў Палацы незалежнасці. Лукашэнка будзе вітаць хлебаробаў са сцэны, а гул яго вёрталета застанецца толькі ў памяці жыхароў некалькіх гарадоў. Гарадок сярод іх будзе апошнім.

**Сяргей Гудзілін, фота аўтара**

# Застаўся без вачэй, пакурыўшы спайсу

Хлопцы пад наркатой **закатавалі свайго прыяцеля.**

Трагедыя здарылася ўначы 21 ліпеня ў Гомелі. На шум у суседнім двары прыватнага сектара звярнуў увагу сусед. Убачыў, як па вуліцы бегалі голыя хлопцы. Сусед выклікаў міліцыю, каб моладзь супакоілі. Калі ж на вуліцу Дакутовіча прыехала следча-аператыўная група разам з АМАПам, адкрылася страшная карціна. У адным з пакояў суседскага дома ляжаў хлопец без вачэй, увесь ягоны твар быў у крыві. А побач на ложку ляжалі яшчэ двое, чые паводзіны міліцыянты ахарактарызавалі як «неадэкватныя». Аказалася, што ўвечары сябрукі набылі і раскурылі спайсы. А тады ўсё і пачалося.

Хлопцу без вачэй — 23 гады. Яго шпіталізавалі з «рванай ранай губы з пераходам на шчаку і нос, рэзанымі ранамі надвочнічных абласцей, скроневай і надброўнай абласцей справа». Жыццю нішто не пагражае. А вось зрок яму не вернеш. Яго сябры — 1985 і 1993 гадоў нараджэння — знаходзяцца пад вартай. Мяркуецца, што гэта яны так паздзекаваліся з прыяцеля.


СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

Кроў была па ўсім доме.

«Пры аглядзе месца здарэння следча-аператыўнай групай канфіскаваны фрагменты шпалераў з рэчывам бурага колеру, драўляны завостраны брусок, разбіты шкляны градуснік, два папяровыя пакеты з рэчывам расліннага паходжання», — паведаміла прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

Крымінальная справа заведзена па факце прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў шляхам катаванняў групай асобаў. Хлопцам пагражае ад 5 да 10 гадоў калоніі.

**Сяргей Макарэвіч**

**Кожны сёмы — падлетак**

«Толькі за першае паўгоддзе зарэгістравана 566 выпадкаў, калі наркаспажыўцоў шпіталізавалі ў сувязі з перадазіроўкай наркарэчывамі. З іх 85 прыпадаюць на непаўналетніх, — адзначылі ў Міністэрстве ўнутраных спраў. — Найбольшая колькасць здарэнняў звязана з ужываннем псіхатропных рэчываў — 378 выпадкаў. Дзевяць з іх скончыліся смерцю».

МУС звяртае ўвагу, што сумесі для палення (спайсы), якія рэкламуюцца як легальныя і бяспечныя, насамрэч з'яўляюцца асабліва небяспечнымі. Яны выклікаюць хуткае прывыканне. Нават аднаразовае ўжыванне прыводзіць да вокамгненнага парушэння псіхікі. І любыя дзеянні са спайсамі падпадаюць пад крымінальную адказнасць — да 15 гадоў калоніі.

## 5 гадоў бегаў ад міліцыі, а папаўся на драбязе

Да гэтага здолеў дзёрзка **збегчы з-пад самага носа** канваіраў.

Сяргей Багдашоў вяртаўся з чарговай справы ў Кранагорскім раёне Падмаскоўя, калі яго затрымалі. Фактычна выпадкова.

36-гадовага беларуса павінны былі асудзіць яшчэ ў маі 2009 за крадзеж, угон аўто, падробку дакументаў. У справе фігуравала больш за 30 эпізодаў. Пракурор нават паспеў агучыць сваё патрабаванне — 10 гадоў калоніі. Заставалася слова за суддзёй. Але Багдашоў выграшыў адкласці гэты трапяткі момант: надумаў збегчы. І калі яго прывезлі ў Жодзіне ў суд, накінуўся з заточкай на канваіра. Выхапіў у таго пісталет з запасной абоймай і кінуўся на ўцёкі. Адразу ж увялі план перахопу. Правяралі ці не ўсе машыны на выездзе з горада і далей па трасе на Оршу, аж і да мяжы з Расіяй. Але прагледзелі. Альбо ён стаіўся, пакуль была ўся шуміха. А затым выехаў на ўсход.

Пакуль на Багдашова выйшлі другі раз, ужо ў Расіі, у Беларусі асудзілі таго канваіра: за халатнасць адправілі на чатыры гады на «хімію». А ў Пскове гараджане пазналі беларуса па арыенціроўках у 2010-м. Выклікалі міліцыю. Праўда, пакуль вылічвалі яго кватэру і падымаліся, Багдашоў па вяроўцы спусціўся з чацвёртага паверха і ўцёк.

Так беларус бегаў да ліпеня 2014, калі пагарэў на апошнім «налёце». Для рабунку ён выбраў дом прадпрымальніка ў пасёлку Нахавах ў Падмаскоўі. Старанна рыхтаваўся. Спачатку прыглядаўся, вывучаў рэжым дня гаспадароў. Высветліў, дзе яны захоўваюць каштоўнасці. І ўначы адважыўся на ўзлом. Адціснуў акно, калі гаспадары спалі. Залез унутр. Спакойна згроб у сумку залатыя завушніцы, пярсцёнкі з брыльянтамі, бранзалеты, гадзіннікі (ацанілі ўсё на $800 тысяч), зноў вылез праз акно і даў драпака. Але рызыкнуў махнуць праз плот, каб скараціць дарогу. Ды не разлічыў сілы. Зачапіўся нагой і моцна яе разадраў. Існі далей ужо не мог. А тут акурат з'явілася ахова, якая патрулявала вуліцы пасёлка. Так і арыштавалі няўлоўнага беларуса.

**Кастусь Матушыч**

## «Абуў» адразу два банкі

**Спрытнасць рук** і… касіры сталі ахвярамі валютнага злодзея.

Злодзей спрацаваў па наладжанай схеме. Разабрацца ў ёй дапамаглі толькі камеры відэаназірання.

Як адзначылі ў мінскай міліцыі, мужчына звяртаўся да касіра з просьбай абмяняць пэўную суму. Перадаўшы грошы, «кліент» клаў на стойку сваю сумачку, робячы выгляд, што размаўляе па тэлефоне. Пасля афармлення абменнай аперацыі, работнік банка перадавала мужчыну суму грошай у беларускіх рублях. Далей той, нібыта прыпыніўшы тэлефонную размову, браў у рукі грошы і казаў, што прасіў абмяняць валюту на расійскія рублі.

У гэты момант ён адной рукой заломваў частку купюр і хаваў іх пад стойку, а астатнія вяртаў. Касір, не пералічваючы грошы зноўку (бо з поля зроку яны не знікалі), выдавала суму ўжо ў расійскіх рублях.



Шляхам падману касіраў махляр забраў 6,4 мільёна і 5,8 мільёна рублёў.

Хто пазнаў чалавека на фота, звяртайцеся ў Савецкае РУУС Мінска на (017) 292-02-02.

**СМ**

### Вышук



**У дзень нараджэння**

24-гадовая Алеся Панцялеева сышла з дому на працу ў Гомелі ў свой дзень нараджэння, 15 ліпеня. І не вярнулася. Была апранута: блакітныя джынсы, светлая майка. Хто бачыў Алесю, звяртайцеся на (029) 232-11-11.

**Арудавалі ломам**

Партызанскі РУУС Мінска расшуквае невядомых, што пашкодзілі восем кіёскаў у Цэнтральным дзіцячым парку Горкага. У адным з іх скралі выручку — 4 мільёны рублёў. Тавар не чапалі. Мяркуецца, што замкі ўзломвалі ломам. Хто валодае інфармацыяй пра гэтыя здарэнні, звяртайцеся на: (017) 230-34-34, (029) 628-36-55.

### Сцісла

**Налічылі 18 мільярдаў**

Скончана папярэдняе расследаванне крымінальнай справы супраць экс-гендырэктара «Барысаўдрэва» Уладзіміра Мальцава. Яго вінавацяць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі падчас выканання дзяржпраграмы па мадэрнізацыі прадпрыемства. Нанесеная шкода дзяржаве ацэнена ў 18 мільярдаў рублёў. Мальцаў застаецца пад вартай. Яму пагражае ад 3 да 10 гадоў калоніі. Накладзены арышт на яго маёмасць на 400 мільёнаў рублёў.

**Хацеў уратаваць, але забіў**

У Буда-Кашалёве асудзілі 25-гадовага хлопца, які выпадкова забіў свайго 31-гадовага брата. Ён правядзе год у калоніі-пасяленні. Усё здарылася ў красавіку 2014, калі старэйшы зайшоў у госці да малодшага. Выпілі і пасварыліся. Старэйшы вырашыў павесіцца проста ў двары. Брат выйшаў, каб прывесці да розуму: двойчы ўдарыў таго кулаком. Удары аказаліся такімі моцнымі, што той памёр ад разрыву селязёнкі, страўнікава-селязёначнай звязкі і наступнага ўнутранага крывацёку.

**П'яны дальнабой уцякаў ад ДАІ 150 км**

Дальнабойшчык перавозіў на лафеце пяць легкавікоў. У Слонімскім раёне ён праігнараваў сігнал даішнікаў спыніцца, а толькі паддаў газу. Па дарозе зачапіў Mercedes-Benz і Volkswagen Passat. А кіроўца іншага легкавіка з'ехаў у кювет, каб пазбегнуць сутыкнення з фурай. Даішнікі выпусцілі некалькі абоймаў з пісталета па машыне, прабіўшы ў ёй колы. Але кіроўца гнаў далей. Машына спынілася, толькі калі з прабітага бака выцекла ўсё паліва. Агулам пагоня расцягнулася на 150 км. Высветлілася, што 30-гадовы кіроўца аказаўся на добрым падпітку — 1,94 праміле. Адзін з легкавікоў на лафеце ў выніку стараннямі быў пашкоджаны.



**З выключным цынізмам**

У Мінску п'яны 17-гадовы падлетак прычапіўся да мінака і з пнеўматычным пісталетам у руцэ спрабаваў даказаць сваю перавагу. Мужчына не разгубіўся і скруціў хлопца. «Дзеянні, якія вылучаюцца выключна цынізмам і суправаджаюцца грубым парушэннем грамадскага парадку і праявай відавочнай непавагі да грамадства, хлопец матываваў стратай кантролю над сабой пасля ўжывання спіртных напояў», — адзначыў прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску Аляксандр Герасімаў. Учынак падлетка кваліфікаваны як асабліва злоснае хуліганства. У яго ў крыві было 1,5 праміле алкаголю.

**КМ**

# Я з Данбаса. Дапамажыце пераехаць у Беларусь, дайце любую працу!

Мая сям'я (я, жонка і трое дзяцей) хацелі б пераехаць на ПМЖ у Беларусь. Я шмат чуў, што ў вас патрабуюцца спецыялісты ў сельскай мясцовасці, з выдзяленнем жытла, з фінансавай дапамогай, але нідзе не магу знайсці канкрэтнай інфармацыі.

У мяне адукацыя агранома (Данецкі аграрны тэхнікум), спецыяліст па біялогіі, выкладчык біялогіі і хіміі (Данецкі нацыянальны ўніверсітэт, біяфак). Працаваў аграномам у саўгасе, доўгі час працаваў тэхнолагам па вырошчванні шампіньёнаў. Мне 35 гадоў.

У жонкі адукацыя пекар-кандытар, працавала па спецыяльнасці. Ёй 35 гадоў.

Двое дзяцей — 14 і 10 гадоў — школьнікі, меншай 1 год.

У сувязі з сітуацыяй у Данбасе і меркаваным яе развіццём заставацца тут больш нельга. Дапамажыце ці падкажыце, да каго звярнуцца па дапамогу.

**Раман Вернікоўскі,**
**vernroman@yandex.ru**

**Ад Рэдакцыі.** Калі ласка, адпішыце чалавеку на мэйл, хто мае вакансіі.

### Лічбы

Штогод на Зямлі памірае недзе 52—56 мільёнаў чалавек. Кожную хвіліну — 97 чалавек. 97 чалавек — кожную хвіліну! Я пакуль запарыла гарбату (3 хвіліны) — памерла 97 памножыць на 3 чалавекі. Амаль 300. «Навошта на Зямлі сваркі і звадкі, калі ўсе мы разам ляцім да зор?» — піша наш чытач Алена Г.

# Іду я па Шанхаі…

Трапіў сёння ў гісторыйку і ў міліцэйскія паперы.

Апоўдні іду па вуліцы ў квартале Шанхай (гэта некалькі вуліц у Параф'янаве, забудаваных прэзідэнцкімі домікамі, якія заселеныя пераважна прыезджымі работнікамі сельскай гаспадаркі).

Насустрач — двое малых, адзін нясе ржавы снарад. Яшчэ трое бягуць за імі і расказваюць, што тыя першыя гэты снарад у іх адабралі. «Пакладзіце на зямлю!» — крычу. Ідуць як ішлі. Я — за імі. Малыя пайшлі гародамі, каля хлявоў, пераелзлі праз плот і прынеслі снарад на падворак аднаго з прэзідэнцкіх домікаў.

Стаў каля снарада, патэлефанаваў у РАУС. Праз пяць хвілін з дома выйшлі гаспадар з жонкай. Адборным расейскім матам бацька выдаў загад дзецям: патапіць снарад у сажалцы. «Мне міліцыя і бумагі іхнія ні нужны!»

Малыя панеслі снарад да сажалкі, дзе такія самыя падшыванцы вудзілі рыбу (рыбы там столькі, што кату наесціся не хопіць). Паклалі на беразе. Я стаў каля снарада, сачу, каб малыя яго больш не чапалі. А дзяцей збеглася, можа, чалавек пятнаццаць. Дарослым гэта чамусьці да лямпачкі. Ідзе нейкая жанчына. «А што тут гэткага, ці ж гэта первы раз снарады находзяць?!»

Прыехалі міліцыянты, разагналі дзяцей. Малады лейтэнант узяў з мяне тлумачэнні. Я пайшоў дадому, а міліцыянт пільнуе снарад, пакуль сапёры не прыедуць.

**Кастусь Шыталь,**
**Параф'янава (Докшыцкі раён)**

### Падзякі

Выказваем падзяку **Яўгеніі В. з Мінска** за вялікае ахвяраванне на газету. Дай Бог Вам здароўя!

# Гарадная, з'езд ганчароў

*Мамзэлек, сямак, адзінец, паляк, неразнак* — усё гэта назвы гліняных пасудзінаў, што робяць у Гараднoй (Столінскі раён). Белагліняныя, непаліваныя, упрыгожаныя паясамі й рысачкамі з чырвонай гліны. Пяць апошніх стагоддзяў тут у кожнай хаце быў ганчарны круг.

27 ліпеня на ў Гараднoй прайшоў IV Міжнародны пленэр ганчароў. У мястэчка з'ехаліся майстры з розных куткоў Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы ды Расіі.

Ларыса Быцко з Брэсцкага аблвыканкама прывезла на пленэр польскі фільм 1938 года пра Гарадную. Людзі ўглядаліся ў старыя кадры, спрабуючы пазнаць сваякоў...

Гарадная — гэта вёска, якая ў часы Тураўскага княства і ВКЛ была горадам. Таму і гонар, і говар у гараднянцаў асаблівыя. І традыцыі рамяства паходзяць з Сярэднявечча.

Цэнтр ганчарства ў Гараднoй адзіны ў краіне. Рэчам, якія тут дзедаўскім спосабам выраблююць майстры, няма аналагаў.

Васіля Логвіна можна назваць ветэранам пленэра. Не першы раз прыязджаюць Павел Вялічка з Бабруйска, Віталь Шапялевіч з Ганцавіч, Сяргей Моўчан з Мінска. Упершыню прыехалі маладыя ганчары і керамісты Вікторыя Хаціновіч з Гродна і Наталля Цэван з Мінска, Мікалай Нупрэйчык і Сяргей Шчамялёў з Радашковічаў.

Былі таксама майстры Васіль Гмір з вёскі Новы Пасёлак Столінскага раёна, Ала Гаўрусік з Пінска, з Магілёўскай вобласці, Глускі раён, вёскі Калюга ганчар Каптур Зміцер з жонкай Катрусяй.

Гаршчкі на фестывалі прадаваліся за 30—45 тыс. руб.

На сёння ў Гараднoй жыве шэсць старэйшых ганчароў: народны майстар Беларусі Аўрам Басавец (80 гадоў), Макар Шэлест (з 1935 г.), Рыгор Кавалька (73 гады), Сцяпан Гмір (з 1928 г.), Іван Шэлест і Аляксандр Шэлест.

Дзякуючы адкрыццю Цэнтра ганчарства ў 2003 г., традыцыйнае рамяство ў Гараднoй набыло новае жыццё. Класамі кіруюць Васіль Казачок і Адам Шэлест. Першы з іх не толькі валодае майстэрствам вырабу, але і піша вершы, у тым ліку і сапраўдныя гімны сваёй справе.

**Алена Варанавец, Гарадная**


73-гадовы Рыгор Кавалька — патомны ганчар.


Найстарэйшая жыхарка Гараднoй — 97-гадовая Марыя Мікша.

### In memoriam

## Пайшоў з жыцця паэт Павел Саковіч



Упершыню мы сустрэліся 26 лістапада 2001 года ў Оршы на літаратурнай вечарыне. Там былі яшчэ Алесь Пісьмянкоў з Навумам Гальпяровічам. А паколькі Пал Палыч нарадзіўся ў гэтым горадзе, то проста свяціўся, дорачы землякам бліскучыя россыпы сваіх вершаваных радкоў.

Там упершыню я выканаў песню «Не прадавайце дом бацькоў» на яго ны верш — і песня яму спадабалася. Такім — светлым і ўзрушана-лёгкім — я яго і запомніў.

Вечная яму памяць і мая шчырая ўдзячнасць за сяброўства і за тое, што зярняткі святла, любові і прыгажосці, якія ён усё сваё жыццё сеяў, далі новыя парасткі. Дапамагаючы нам жыць і трымаць на сваіх плячах непарушную неабсяжнасць загадкавай беларускай існасці.

**Мікола Яцкоў, Facebook.com**

### Знак памяці Івашкевіча

Партыя БНФ заснавала памятны знак імя Віктара Івашкевіча. Першым яго лаўрэатам стала суполка «Альтэрнатыва» і яе лідар Алег Корбан. Нагадаем, што рабочы лідар Івашкевіч, адзін з пачынальнікаў руху за незалежнасць Беларусі, памёр у 2013 годзе.

### Вачыма паэта

## Валнаваха

Памяці ўкраінцаў, што палеглі за волю і незалежнасць…

Ляжаць на палетках
Хлапцы маладыя,
На неба глядзяць усе,
Ляжаць нежывыя.

Няма больш у мацераў
Родных сыночкаў,
Няма болей бацькоў
У сынаў і дочак.

Назаўжды вы
Ў шэраг анёлаў уступілі,
Назаўжды адвагай
Жыццё блаславілі,

Назаўжды крывёй
Вы зямлю асвяцілі,
Вы далі адказ,
Што Ваш край не забілі!

**Вячаслаў Курбака, Маладзечна**

### Тонкасці мовы

На вочы трапіла адна старая «НН». Тамака карціна Ігара Бархаткова называецца як «Конік на раллі».

Але ралля — не поле, а перавернутая плугам глеба. Таму подпіс не адэкватны! Правільная назва была б: «Конік на ворыве».

**Мікалай Бусел, чытака і селькар, Дуброва (Светлагорскі раён)**

### Фотафакт



Такія марапрыемствы, як «Крытычная маса», раварысты ладзяць у многіх гарадах свету. Традыцыйна гэта апошняя пятніца месяца. У Баранавічах упершыню такія мерапрыемствы сталі ладзіцца сёлета, і не адзін раз на месяц, а два: у другую і апошнюю пятніцы. Ужо адбыліся чатыры «Крытычныя массы». Колькасць удзельнікаў павялічылася з 40 (у першы раз) да 104 (у апошні). Сярод удзельнікаў былі дзеці з бацькамі і людзі сталага веку.

Рэакцыя аўтамабілістаў і пешаходаў на вялікую колькасць раварыстаў на вуліцы была вельмі пазітыўная, мы бачылі шмат усмешак і чулі шмат добрых слоў.

**Ef Pol**

# Дагістарычная мяжа з Еўразіяй: загадка Змеевых валоў

Іх называюць Вялікай Кітайскай сцяной Усходняй Еўропы. Валы вышынёй у 6—10 метраў, каля якіх бачныя парэшткі рова, цягнуцца на дзясяткі кіламетраў па тэрыторыі Украіны, апаясваючы Кіеўшчыну. Агульная іх працягласць складае каля 700 км.

«Змеевы» — бо, кажа народнае паданне, выараў гэтыя валы асілак, які запрэг змея ў плуг. Падобны міф ёсць у індыйскім эпасе, ёсць і такая ж беларуская легенда пра ўзнікненне ракі Буг. Але хто і калі насамрэч насыпаў гэтыя валы? Зрабіла гэта не прырода: даследаванне паказала, што валы стаяць на падэшве з абпаленай гліны, дзе-нідзе з дамешкам вугалля, а зямля для іх бралася, найхутчэй, з рова, які адначасова капаўся побач.

Якое было функцыянальнае прызначэнне валоў? Гісторыкі сыходзяцца, што ў старажытнасці гэта быў эфектыўны сродак барацьбы з качэўнікамі. Асноўны козыр качэўнікаў — хуткі налёт вялікай масы конніцы. Калі ж яна сустракае перашкоду — губляецца эфект нечаканасці, хуткасць падае, і купа коннікаў з грознай ударнай сілы ператвараецца ў мішэнь для стрэлаў. І яшчэ адзін момант: калі войска захопнікаў яшчэ так-сяк магло валы перайсці, дык для абозу роў глыбінёй 2—3 метры быў непераадольнай перашкодай. Таму качэўнікі, нават перайшоўшы вал, імкнуліся не адыходзіць далёка.


Рэшткі Змеевых валоў між вёскамі Круглік і Іванкавічы пад Кіевам.

Іншымі словамі, гісторыкі лічаць, што валы збудавалі жыхары ўкраінскага лесастэпу, каб абараніцца ад прыхадняў. Яшчэ адно пытанне: калі тое было?

Яшчэ грэчаскі гісторык Герадот, пішучы пра скіфаў-аратаяў (а скіфамі ён называў многія народы на поўнач ад Чорнага мора), адзначаў, што яны адгарадзіліся ад ваяўнічых сарматаў гіганцкім валам — ад Карпатаў да Азоўскага мора. Памеры Герадот, які грунтаваўся на словах элінскіх купцоў, мо і перабольшыў, але водгулле маштабнага будаўніцтва да яго дайшло. Гэта першая версія паходжання валоў — «скіфская». Але ці маглі плямёны, якія жылі ў рода-племянным ладзе, здзейсніць такое?

Скептыкі кажуць, што будаўніцтва такога маштабу пад сілу толькі цэнтралізаванай дзяржаве, накшталт Старажытнага Егіпту. Але ці была цэнтралізаваная дзяржава ў Англіі, калі там будавалі Стоўнхендж? А на Велікоднай выспе, якая дзівіць турыстаў сваімі мегалітамі? Зрэшты, можа і былі там нейкія протадзяржаўныя ўтварэнні. Дык і ва Украіне ж яны маглі быць.

Падобным чынам, на паўтысячы год пазней за Герадота, бараніліся ад варвараў рымляне — згадаем Траянаў вал у сучаснай Малдове, Адрыянаў вал на поўначы Англіі. Магчыма, стваральнікі Змеевых валоў натхняліся рымскім прыкладам? Прыхільнікі другой, «гоцкай», тэорыі кажуць, што валы з'явіліся ў IV ст. н.э., падчас Вялікага перасялення народаў. І яны мусілі бараніць гоцкую дзяржаву, якая раскінулася ў той час ад Прыпяці да Чорнага мора, ад нашэсця гунаў. Гэтую тэорыю пачалі актыўна распрацоўваць у 1930-я, з адкрыццём чарняхаўскай археалагічнай культуры, якая асацыюецца з плямёнамі ваяўнічых готаў. Але пасля Другой сусветнай на вывучэнне побыту германскіх плямёнаў на тэрыторыі СССР было накладзенае табу. Нават славутага гоцкага караля Германарыха ў літаратуры пераназвалі ў Эрманарыха.

Цікава, што готы не ўмацоўвалі свае гарадзішчы — ці то спадзяваліся на вал, ці то на свае мячы. Аднак гуны ўсё ж зруйнавалі іх дзяржаву і пайшлі далей на Еўропу. Яны праходзілі і далёка за валы — наканечнікі гунскіх стрэлаў археолагі знаходзілі аж у наваколлі Нарачы.

Змеевы валы згадваюцца і ў кіеўскіх летапісах — як геаграфічны арыенцір падчас апісанняў палавецкіх набегаў ды княскіх міжусобіц. Валы згадвае ў сваім лісце і святы Бруна Кверфурцкі, які ў 1007 гасцяваў у кіеўскага князя Уладзіміра. Але летапісы захавалі б згадку пра будаўніцтва валоў, калі б яно адбывалася за часамі ўзвышэння Кіева. Як захаваліся ў памяці беларусаў успаміны пра будаўніцтва замкаў за часам Вялікага Княства (у выглядзе праклёнаў — «Каб ты на Віленскі замак каменне цягаў!»).

Між тым, «славянская» версія паходжання валоў існуе: іх маглі стварыць у VI—VII стагоддзі для абароны ад тагачаснай стэпавай пагрозы — хазараў і авараў.

Цікава, што радыевуглярodны аналіз вугалля, якое знаходзілі ў валах, кажа на карысць усіх трох тэорый. То бок розныя часткі Змеевых валоў насыпалі ў розны час. Паўночнейшыя — ледзь не ў Герадотавы часы, паўднёвейшыя — пазней. Гісторыя Усходняй Еўропы хавае яшчэ шмат загадак.

**Сяргей Мікулевіч**

# Слуцкае паўстанне вачыма дэфензівы

Знойдзеныя **новыя дакументы**, якія тычацца жыцця Случчыны ў канцы 1920-га.

Працуючы ў Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці, натрапіў на шэраг цікавых дакументаў, якія адносяцца да Слуцкага паўстання. Яны раней не публікаваліся. Гэта выпіскі з рапартаў і данясенняў службовых асоб польскіх пастарункаў і аддзелаў дэфензівы на памежных са Слуцкам тэрыторыях. Для большай зручнасці матэрыял пададзены ў храналагічным парадку.

### У Семежаве — беларуская міліцыя

Рапарт за 19—25. 11. 1920 г.: «Па прыбыцці да Семежава заспеў мясцовую ўладу — беларускую міліцыю... Настрой насельніцтва ў Семежаве і ваколіцах да Войска Польскага добры. Беларускае насельніцтва баіцца надыходзячых войск бальшавіцкіх, у той час як насельніцтва жыдоўскае ставіцца да іх лаяльна, але баіцца надыходзячых войск Балаховіча».

Пра новую ўладу паведамляе і пастарунак у Вызне ў рапарце за 24 лістапада: «У Вызне заспеў мясцовую ўладу — так званага начальніка раёна, добраахвотную беларускую міліцыю і Пастарунак Жандармерыі польскай...»

Ёсць у рапарце і адзнака тагачаснага міжуладдзя: «У Вызне і ваколіцах пашыраецца масавы выраб самагонкі...»

Сіпняцкі ў сваім рапарце адзначае: «Перад нашым прыездам (у Вызну), 21.11.1920 г., на рынку адбыўся сход мясцовага насельніцтва і ўсіх ваколіц пад лозунгам «Арганізацыя добраахвотных беларускіх аддзелаў», на сходзе прысутнічала каля 600 чалавек. Сход аднагалосна ўхваліў пастанову аб хутчэйшай арганізацыі Беларускай арміі, каб не дапусціць бальшавікоў на пакінутую Войскам Польскім тэрыторыю».

### «Беларусы баяцца бальшавікоў, габрэі — Балаховіча»

Гэтае назіранне адзначаецца ў рапартах некалькі разоў. Канфлікт «балахоўцаў» з габрэйскай грамадой польскі назіральнік фіксуе ў Семежаве: «Дня 22.11.1920 г. праз Семежава праходзіў аддзел добраахвотнікаў-«балахоўцаў» у лічбе 120 чалавек. На чале аддзела стаіць падпаручнік Хвядосьеў Тэнапіца, які паклікаў жыхара — рабіна Себармана і загадаў за шэсць гадзін зрабіць сход і сабраць у мясцовых жыдоў 20000 рублёў царскіх і 20000 марак польскіх...» Чым скончылася гісторыя — не паведамляецца.

Слуцкія паўстанцы верылі, што вось-вось ім прыйдзе на дапамогу генерал Булак-Балаховіч са сваім войскам, які ў той час ажыццяўляў свой Палескі паход на Мазыр і Рэчыцу. «У выніку адступлення Войска Польскага з мястэчка Слуцка ходзяць чуткі аб верагодным заняцці яго праз войска Балаховіча... Даволі часта чуюцца размовы паміж сялянамі аб Балаховічу», — паведамляецца ў рапарце з вёскі Сіняўкі (цяпер Капыльскі раён) ад 24.11.1920 г. Але з'яўляліся толькі добраахвотнікі-«балахоўцы», што выклікалі страх у габрэйскага насельніцтва. Рэгулярныя часці Балаховіча не прыйшлі на дапамогу случчакам.

Назіральнікі фіксавалі і рост колькасці паўстанцаў у ваколіцах Слуцка. «Дня 24. 11. 1920 г. да Семежава прыбыла Беларуская Слуцкая павятовая рада і штаб рэзервовы з аддзелам узброеным, да 400 чалавек, і з кожным днём прыбывае ўсё больш добраахвотнікаў, так у цяперашні час можна лічыць каля 2000 чалавек. Захоўваюцца добрыя адносіны паміж насельніцтвам і Войскам Польскім. Беларуская рада, арганізуючы сход, паведамляе Экспазітуру, калі на сходзе праводзіцца антыбальшавіцкая агітацыя», — піша агент. Адначасова ён скардзіцца, што «няма дырэктыў, у якім стасунку ўзаемадзейнічаць з Беларускай радай і аддзеламі».

### Палітычныя настроі

Паводле данясення кіраўніку экспазітуры ў Семежаве ад 25.11.1920 г., даецца настрой мясцовага насельніцтва: «Два прынцыповыя кірункі спатkáлася на тутэйшай тэрыторыі — мясцовае польскае насельніцтва, якое цалкам падтрымлівае ўрад і польскую армію, і беларускае насельніцтва, якое выказваецца за незалежнасць Беларусі і Балаховіча».

### Банды марадзёраў

У час ваеннага безуладдзя падымае галаву крымінальны элемент. Пастарунак у Будчы падае наступную інфармацыю ў рапарце за 1.12.1920 г.: «Дня 25. 11.1920 г. раніцай афіцэр з арміі генерала Балаховіча, які вёў аддзел добраахвотнікаў у беларускае войска, пабіў жонку лесніка. Таго ж самага дня, пасля сыходу з Вызны пастарунка дэфензівы і апошніх аддзелаў Войска Польскага, увечары нейкая банда колькасцю каля 30 чалавек, узброеная карабінамі, напала на мястэчка, абрабавала насельніцтва — пераважна жыдоў і пайшла ў бок Семежава. На другі дзень праз аднаго выведніка стала вядома, што банда складалася з бальшавіцкіх дэзерціраў, якія ўцякалі ў беларускае войска».

На наступны дзень польскі агент спаткаў кур'ера, якога габрэі з Вызны выслалі да бальшавікоў «з заданнем, каб бальшавікі хутчэй занялі мястэчка Вызна, пакуль яго не занялі беларускія аддзелы. Таго ж самага дня, вяртаючыся з падводай, нейкі Лявон Леснікoвіч... быў забіты бандай, узброенай карабінамі».

Факт бандытызму быў зафіксаваны ў і вёсцы Вялікі Рожан (цяпер Салігорскі раён). «Дня 26. 11. 1920 г. прыбыў да В. Рожана аддзел добраахвотнікаў у беларускае войска колькасцю каля 35 чалавек, пачаў праводзіць самавольныя рэквізіцыі, забіраючы ў насельніцтва жыўнасць», — паведамляў агент.

Беларуская ўлада, што паўставала на Случчыне, спрабавала змагацца з крымінальнікамі. Пра гэта сведчыць рапарт пастарунка ў Сіняўцы за 1. 12. 1920 г. : «Дня 28.11.1920 г. беларуская дэфензіва з Семежава прыслала арыштаваных разам з пратаколамі допытаў: узводнага Войска Польскага ? Эдмунда, шарагоўца Мяльрэўскага (?) і члена бальшавіцкай партыі Шыркалава (?), абвінавачаных у бандытызме. ....Дакладваю — вельмі шмат афіцэраў і жаўнераў дэзертуе з войска Балаховіча і пераходзяць на польскую тэрыторыю».

### Змаганне за Семежава

Адводзіцца месца ў знойдзеных рапартах і вайсковым дзенням. Пастарунак у Клецку паведамляе: «Дня 4.12.1920 г. на лініі Семежава — Філіповічы бальшавіцкія аддзелы перайшлі нейтральную лінію пад мястэчкам Мокрае і (напалі?) на Семежава. Тут беларускае войска пацярпела сур'ёзнае паражэнне. Быццам бы штаб беларускай арміі меўся быць перанесены да Грыцэвіцкай гміны».

Але пасля Семежава ўдалося адбіць: «7.12.1920 г. даведаўся, што нібыта перамога павярнулася на бок беларусаў і быццам бы войска іх мелася зноў заняць Семежава. Пад Пузавам размясціўся аддзел беларускі ў колькасці 120 чалавек і трэніруецца».

**Раман Сыч,**
**магістр гістарычных навук.**

# Віржынія-Эвэліна-Марыя, дачка Шымонава

**Парыжанка Віржынія Шыманец** пра свой беларускі лёс.

Шмат хто мяне папракае, што я бачу Беларусь інакш, чым іншыя, задаю гэтай краіне не такія пытанні, як іншыя, не хаджу па пратаптаных сцежках. Шмат хто таксама думае, што я знайшла сабе «цацку», пры гэтым маё адмоўнае стаўленне да аўтарытарызму па-беларуску — гэта ўсяго толькі плод маёй празмернай чуллівасці. Таму я пакажу вам фатаграфію, якая наводзіць на мяне страх.

Дзея адбываецца праз пару дзён пасля 25 снежня 1968-га, а можа ўжо й на пачатку 1969-га. Заснулая крэветка — гэта я. Жанчына, што трымае мяне ў руках, — мая маці, французжанка Мары-Франс Сіро. Яна толькі на 46 гадоў перажыве тое, што некаторыя называюць маёй «цацкай», — маё супрацьстаянне таму аўтарытарызму. Аднак на гэтай фатаграфіі святло ідзе менавіта ад яе, бо мужчыны ў чорным, якія навісаюць над намі, утвараюць мур, і будзе цяжка пахіснуць маё перакананне ў тым, што гэта, па сутнасці, усё, што яны ўмеюць рабіць. У казках над калыскамі часам стаяць тры феі. Дык вось такія былі ў мяне. Па парадку, злева направа: мой бацька Леанід, біскуп Сіповіч і айцец Гарошка.




На гэтай фатаграфіі не відаць, што мая маці — каталічка, што мой бацька — праваслаўны і што два іншыя «бацькі» — уніяты. Тое, што адбываецца на фатаграфіі і, як выглядае, зусім не радуе біскупа, насамрэч мае вялізнае, а нехта б сказаў і «гістарычнае», значэнне, бо было вырашана, што заснулая дзяўчынка будзе пахрышчаная ўніяткай. Не каталічкай, як палякі, не праваслаўнай, як расейцы, а грэка-каталічкай, як і мае быць у тых, хто больш беларус, чым беларусы.

Хто здымае? Не ведаю. Часам я думаю, што гэта мусіць быць яшчэ адзін праваслаўны ўдзельнік урачыстасці — мой дзед Уладзімір. Было б забаўна, калі б сітуацыя на здымку была тыповая для ягонага погляду на падзею. Бо тое, чаго таксама не відаць на фатаграфіі і чаго ніхто мне ніколі не растлумачыць — гэта сэнс, які шмат для якіх празорлівых людзей хавае прозвішча майго дзеда, перададзенае мне праз бацьку: «Symaniec», вельмі прыблізная лацінізацыя беларускага «Шыманец», што на добрай беларускай мове азначае не зусім беларускае або й зусім не беларускае «Шымонаў/Сымонаў сын».

Не, гэта не жарт, і я не спрабую ўскладніць справы. Зрэшты, гэтыя дарослыя і да мяне ўжо ўдосыць іх панаўскладнялі. Нават біскуп мае ўсе падставы надзьмуцца і падкрэслена гэта паказаць перад аб'ектывам. І як я яго разумею: тое, што тут цяпер мае адбыцца, будзе яму вельмі цяжка перанесці. Калі б хаця яго выцягнулі з ягонага біскупства дзеля хлопчыка — што ў тыя часы было цяжка прадбачыць загадзя, — а тут да ўсяго яшчэ і дзяўчынка, от халера! І што з ёй наогул будзе можна зрабіць, з гэтай... рэччу?

А ну паглядзім, якія імёны ёй зараз дадуць: Віржынія, ад лацінскага Virgo, Virgus, Дзявіца, значыць «малая дзявіца». Добра. Файны пачатак. Эвеліна, або «малая Ева», як звалі маю беларускую бабулю-каталічку; і ў дадатак да ўсяго, бо застаецца яшчэ адзін тонкі слой — Марыя, проста Марыя, як звалі маю ардэшскую бабулю-каталічку, і гэтага таксама не відаць на фатаграфіі: Віржынія-Эвэліна-Марыя, дачка Шымонава, быць табе ўніяткай, бо ты родам беларуска, але з часам ты зразумееш, што гэта й ёсць тое, што называюць «яўрэйскім шчасцем».

Чатыры мовы мяшаюцца на гэтай фатаграфіі (беларуская, польская, французская і «ардэшская гаворка»), не лічачы стараславянскай, бо ў тыя часы ў Парыжы беларускія ўніяцкія багаслужбы яшчэ спраўляліся па-стараславянску. Я яшчэ буду мець шмат нагодаў пра гэта даведацца, але вам гэтага на фатаграфіі не відаць. Вам таксама не відаць, што ў гэтай гісторыі ёсць і адна забароненая мова — расейская. Нічога, што мой дзед Уладзімір зможа сварыцца з Салжаніцыным або браць інтэрв'ю ў Шагала па-расейску, затое калі ён дае дома лекцыі па-расейску, у нас шчыльна зачыняюцца дзверы, а мяне выводзяць куды-небудзь далей. Ну добра. Я расказваю гэта ўсё для тых, хто не ведае, што гэта беларуская сям'я, і хто паўтарае, як папугай, што беларусы могуць быць толькі праваслаўнымі. У нейкім сэнсе яны маюць рацыю — у тым, што гэта сапраўды афіцыйная рэлігія беларусаў пасля 1870-х, але паміж тым, што кажаш падчас перапісу, і тым, як яно ёсць насамрэч...

Лішне ўдакладняць, што гэты маленькі свет відавочна не мае нічога супольнага з камунізмам. Аднак гэтая гістарычная сцэна адбываецца ў клініцы Сюлі ў Мэзон-Ляфіце, бо склалася так, што гэтая тыповая беларуская сям'я жыве ў суседнім чырвоным мястэчку Сартрувіль.

Ааааа, Сартрувіль: мястэчка майго дзяцінства, з камуністычнай мэрыяй, вуліцамі Леніна і Карла Маркса, стадыёнам Юрыя Гагарына і маленькай школкай, якая носіць дарэчнае імя Жаліё-Кюры. У нейкі момант той маленькай дзяўчынцы, якая, нібы той Абелікс з «Астэрыкса», упала ў дзяцінстве ў самы антыкамуністычны кацёл, які толькі можна сабе ўявіць, даведзецца менавіта тут пайсці ў школу, дзе бальшыня выкладчыкаў будуць камуністы і дзе яны без лішняга сораму пры любой нагодзе будуць даваць ёй зразумець, што лічаць яе «дачкой нацыстаў».

Яны таксама будуць пытацца ў яе штораз на пачатку школьнага года і яшчэ перад усім класам, ці «Symaniec» часам не сепаратысцка-брэтонскае прозвішча, на што дзяўчынка навучыцца адказваць, што Брэст — гэта горад не толькі ў Брэтані (а ейны, вядома, некалі зваўся «Літоўскі»). Яе аднакласнікі таксама ёй растлумачаць, што яна ніякая не «biélorussienne», а «biélorusse» (белая расейка), бо так кажуць усе і так напісана ў слоўніку. Яны таксама растлумачаць, што «biélorusse» значыць «белы расеец», а таму яе дзед-інжынер абавязкова мусіць працаваць таксістам. А галоўнае — галоўнае тое, што гэты маленькі сусвет ніколі не стоміцца сцвярджаць, што тая мова, якую яна штодня чуе дома, на першым паверсе маленькага дамка ў Сартрувілі, дык вось, менавіта гэтая мова якраз «не існуе». Гэтую мову чуюць і яны, калі мая бабуля прыходзіць забраць мяне са школы або калі яны прыходзяць да нас на бліны. У нашым квартале ўсе называюць яе «baboula» і просяць, каб я пераклала з беларускай на французскую тое, што яна кажа, але ўвага: гэтага ж не існуе.

> **Гэты маленькі сусвет ніколі не стоміцца сцвярджаць, што тая мова, якую яна штодня чуе дома, на першым паверсе маленькага дамка ў Сартрувілі, «не існуе»**

Бачыце, на гэтай фатаграфіі я яшчэ сплю. І слушна раблю, гэта адэкватная рэакцыя. Мне трэба набірацца сілы, каб жыць у гэтым свеце, населеным пераважна мужчынамі, якія «ведаюць». Яны будуць «ведаць», што беларускай мовы не існуе. Яны будуць «ведаць», што «Symaniec» — гэта брэтонскае прозвішча. Яны будуць «ведаць», што каталіцтва і праваслаўе, як вада і алей, не мяшаюцца між сабою і вызначаюць дзве неспалучальныя прасторы «цывілізацыі». Яны будуць «ведаць», што слова «biélorusses» значыць «белыя расейцы», арыстакраты, якія ўцяклі ў 1917-м ад бальшавізму. Яны будуць «ведаць», што слова «Беларусь», якое так доўга перакладалі на французскую як «Biélorussie», даслоўна значыць «Белая Расея». Яны таксама будуць «ведаць», што ўсе беларускамоўныя — гэта аўтаматычна «нацысты», ха-ха!

Зрэшты, усё гэта яны будуць «ведаць» даволі доўга. Калі дакладна — 23 гады. Добра. Яны ўсё яшчэ толкам не ведаюць, як растлумачыць тое, што «нацыстоўскай» суполкай беларусаў Францыі столькі гадоў кіравалі людзі з сумнеўнымі прозвішчамі Абрамчык (Абрам, які канчаецца на —чык) і Шыманец (Шымон, які канчаецца на —ец), але ніколькі не сумняваюся, што аднойчы яны растлумачаць мне, хто былі гэтыя людзі. І тады пабачым, што такое праўда — свабода ці смерць.

Часам, калі я пішу, мяне бярэ смех. Напрыклад, калі я згадваю пра аднаго прафесара з Нацыянальнай універсітэцкай рады, які аднойчы падчас сумоўя закрычаў: «Але ж вы нетыповая!» Небарака не ўяўляў сабе наколькі. І я думаю, што, калі б я паказала вам свае нататкі пра назву Б... (піііп!), вось проста так, без падрыхтоўкі, з вамі таксама магла б здарыцца падобная істэрыка. Дык я раскажу вам яшчэ пра пару драбніц такога кшталту. Гісторыю пра тое, як плаўна перайсці да сутнасці справы. І, дзеля смеху, назавем гэта падарожжам у Беларусіянію...

**Пераклад з французскай Сяргея Шупы**



**Віржынія Шыманец (Virginie Symaniec)**

Нарадзілася ў 1968. Даследчыца беларускага тэатра, лінгвіст, гісторык. Жыве ў Парыжы. Аўтар кніг на французскай: «Беларусь: механіка адной дыктатуры» (2007, супольна з Ж-Ш. Ляльманам), «Усходнеславянская ідэалагічная канструкцыя. Мовы, расы і нацыі ў Расеі XIX стагоддзя» (2013). На працягу 10 гадоў узначальвала парыжскую асацыяцыю «Беларускія перспектывы». У 2011 годзе заснавала выдавецтва Le Ver à Soie ў Парыжы. Пляменніца Івонкі Сурвілы.

## ФУТБОЛ

### БАТЭ — «Дэбрэцэн»




**5 жніўня на «Барысаў-Арэне»** пройдзе матч трэцяга кваліфікацыйнага раўнда Лігі чэмпіёнаў паміж БАТЭ і венгерскім «Дэбрэцэнам». Пачатак а 20.

### «Дынама» — «Клуж»

**31 ліпеня на «Барысаў-Арэне»** мінскае «Дынама» згуляе з камандай ЧФР з румынскага горада Клуж. Гульня пройдзе ў рамках трэцяга кваліфікацыйнага раўнда Лігі Еўропы. Гуляюць у Барысаве, бо ў Мінску зараз няма добрага стадыёна.

## ІМПРЭЗЫ

### «Дружба»

**1 і 2 жніўня на хутары Шаблі (в. Малое Запруддзе, Валожынскі р-н)** адгрыміць фестываль «Дружба» з удзелам гуртоў B.N., Akute, «Без Білета», Animal ДжаZ, «Срэбнае Вяселле», «Ногу свело», «Касіяпея», Sounduk, The Toobes і спевакоў — Сяргея Бабкіна і Дэльфіна.

## КАНЦЭРТЫ

### BosaeSonca

**31 ліпеня а 19 у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** грае гурт BosaeSonca.

### Лявон Вольскі ў Барысаве

**31 ліпеня ў барысаўскім «Ірландскім пабе» (Ватуціна, 32а)** Лявон Вольскі дасць канцэрт разам з джазменам Паўлам Аракелянам. Пачатак а 20.

### August Fest

**3 жніўня ў Shaka Bar (Скрыганава, 6а)** адбудзецца August Fest. Удзельнікі: «Тлушч», «Танграм», It Loops! і Bodies. Пачатак а 19.

.

## ВЫСТАВЫ

### Рэчы паміж жыццём і смерцю

**Выстава «Рэчы паміж жыццём і смерцю», што экспануецца ў Гістарычным музеі (К. Маркса, 12)**, складаецца з тысячы дробных прадметаў, неабходных для выжывання ў акопах. Гэтыя рэчы сімвалізуюць розніцу паміж жыццём і смерцю, а таксама тое, што і на вайне чалавек застаецца чалавекам. Выстава распавядае пра штодзённае жыццё падчас войнаў, носіць апалітычны і гуманістычны характар. Яна падрыхтавана Музеем Арміі ў Стакгольме ў супрацоўніцтве з вядомым калекцыянерам Турб'ёрнам Ленскугам.

### Хаім Нахман Бялік: шлях паэта

**Ізраільскі культурны цэнтр пры амбасадзе Ізраіля і Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы (Купалы, 4)** падрыхтавалі выставу-экспазіцыю «Хаім Нахман Бялік: шлях паэта». Хаім Нахман Бялік (1873 — 1934) — адзін з самых яскравых паэтаў XX ст., «яўрэйскі Пушкін», нацыянальны яўрэйскі паэт і класік, адзін са стваральнікаў сучаснага іўрыта, выдавец, асветнік, грамадскі дзеяч. Выстава будзе працаваць да 12 жніўня.









### Вялікае Княства Літоўскае на старажытных геаграфічных мапах

**Арганізатары выставы, што разгарнулася ў творчай прасторы «Цэх» (Незалежнасці, 58/6)**, прапануюць сёння зірнуць на старажытныя геаграфічныя мапы Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Еўропы і свету і паспрабаваць убачыць сябе ў іншым гістарычным ракурсе і маштабе, акунуцца ў свет вобразаў і дыскусій, якія могуць падштурхнуць нас да пераасэнсавання сваіх уяўленняў пра «межы» Беларусі.



### «У княстве Лепельскага Цмока»

**2 жніўня ў аграсядзібе «Поўсвіж» (Лепельскі раён)** рыхтуецца мастацкарамесны фэст і пленэр «У княстве Лепельскага Цмока». На фэсце будзе фальклёрны гурт з Віцебска «Паўночная Сухадроўка». Мяркуецца, што Іван Будзіч будзе выразаць з бервяна Цмока Поўсвіжскага. Пленэр мастакоў будзе доўжыцца тры дні: 30, 31 ліпеня, 1 жніўня.




## КІНО

### Развянчанне легенды

Геракл
**Жанр:** баявік, прыгоды, фэнтэзі, камедыя
**Рэжысёр:** Брэт Рэтнер
**У ролях:** Дуэйн Джонсан, Аксель Хені, Іэн Макшэйн, Джон Хёрт, Руфус С'юэл, Інгрыд Балсай Бердал, Рыс Рычы, Тобіяс Зантэлман, Рэбека Фергюсан

Здзейсніўшы вядомыя подзвігі і згубіўшы сваю сям'ю, Геракл робіцца наймітам. Разам з пяццю вернымі паплечнікамі ён падарожнічае па Старажытнай Грэцыі, прадаючы свае паслугі за золата і выкарыстоўваючы легендарную славу, каб запалохваць ворагаў. Згаджаецца ён дапамагчы і цару Фракіі і яго дачцэ — трэба перамагчы жахлівага ваенаначальніка Рэзуса, які тэрарызуе краіну. Аднак усё аказваецца інакш, чым меркаваў Геракл, і яму давядзецца сустрэцца з прывідамі свайго мінулага.
Рэжысёр Брэт Рэтнер («Людзі Ікс: Апошняя бітва», 2006) не пабаяўся выпусціць свайго «Геракла» ў адзін год з выхадам стужкі «Геракл: Пачатак легенды» Рэні Харліна. І недарма: яго Геракл у выкананні Дуэйна Скала Джонсана атрымаўся больш харызматычным. Акцёр прафесійна займаецца рэслінгам і мае шмат узнагарод, а для здымак яму давялося трэніравацца на працягу 8 месяцаў, каб набраць неабходную форму.
Фільм прапануе свой пункт гледжання на агульнавядомую легенду. Геракл паказаны як просты, хоць і звышдужы чалавек, які здзейсніў поздвігі з дапамогай сяброў, якіх сустрэў падчас сваіх прыгод. Геракл перамагае дзякуючы не сіле паўбога — гэта толькі легенда, якую стварае для яго Іалай, а дзякуючы асабістай сіле духу і дапамозе верных сяброў.
У стужцы стае і відовішчных трукаў, і пафасу, які звычайна суправаджае галівудскія блакбастары, але ўсё дзеянне дастаткова прыпраўлена гумарам. Добрая пастаноўка і няблага падабраны акцёрскі склад выцягваюць сюжэт.

**Настасся Уласава**



# Страўнік бесперабойны,
## альбо У абарону вышыванкі

Альгерду Бахарэвічу адказвае **Стась Карпаў**.

Круціцца, ведаеце, у галаве такі вобраз. Здаровы, ёмісты страўнік разам з кішэчнікам. Самі сабой, асобна ад цела. Такія органы, якія існуюць, каб атрымліваць ежу і вырабляць г.... У імя працэсу.

Вакол страўніка адбываюцца падзеі. Людзі расчароўваюцца, натхняюцца, пачынаюць, сканчаюць. А ён, крыху ўздрыгваючы і пераліваючыся абалонкай брушыны, спакойна і важна робіць сваю справу. Брыкецікі, брыкецікі, брыкецікі.

Учора — брыкет, а заўтра цагліна, якую трэба закласці на правах скарбу ў наш культурны мур.

Ну, вось апошні — эсэ Бахарэвіча «Ганаровая вешалка». Тэкст, калі хто не чытаў, прысвечаны модзе на вышыванкі, якая абвешчана прыкметай занядаду і перамогай эстэтыкі калгаса і прыгону.

Тэкст вельмі такі, ведаеце, іранічны. Тэкст пяра мэтра, які ўзнёсся і адтуль, з вышынь, прыплюшчыўшы вока, выдае свае вердыкты.

Мода на вышыванкі, між тым, і сапраўды ёсць. Гэта і дакладныя рэпрадукцыі беларускай нацыянальнай вопраткі, і стылізацыі на сучасны манер тыпу *Honar*, і мілыя майкі з прынтамі беларускіх арнаментаў ад Франака Вячоркі. І што? Вось яна, новая кансэнсусная эстэтыка? Новы спосаб расказаць свету пра сябе, нічога ў свету не патрабуючы і ні на што не скардзячыся? А вось і не!

Чытаеш «вешалку» і ўяўляеш нараджэнне брыкета. Як акт, як працэс. І сказ за сказам, як сантыметр за сантыметрам. Асобна, канечне, дастаўляе, што артыкул выйшаў на сайце «Будзьмы», дзе нават лагатып стылізаваны пад арнамент. Гэта выклікае некаторыя гамы і трывожыць некаторыя струны.

### Аўтар абураецца

*Трыумф вышыванкі значыць, што ўсё было дарэмна. Мы прапалі. Вышыванчная Беларусь зноў перамагла Беларусь еўрапейскую. Мы вярнуліся туды, дзе былі. Да Беларусі льнянай, жытнёвай, баравой, а таксама баваўнянай, саматканай, паркалёвай, пладова-ягаднай і сінтэпонавай.*



**Стась Карпаў**

нарадзіўся ў Мінску ў 1983. Скончыў філфак БДУ. Вэбдызайнер, публіцыст, паэт.



АЛЕНА ВАРАНАВЕЦ

Гарадная (Столінскі раён, 27 ліпеня).

Адразу пытанне. А калі заўтра ўсе ў адзіным памкненні скінуць і спаляць свае вышыванкі, ці прачытаю я, што нарэшце еўрапейская Беларусь перамагла лапатную? Па-другое, хто такія *мы*, каторыя вярнуліся? Вялікая частка людзей не здагадваецца ні пра наяўнасць вышыванак, ні пра наяўнасць Бахарэвіча. Як быць з імі? Акрамя таго: некаторым людзям пашчасціла, уявіце сабе, мець джынсы. Куды іх адсылае гэтая шмотка? Няўжо да часоў Леві Штраўса на залатыя руднікі?

### Аўтар заглыбляецца

*Людзям у вышыванках вельмі важна адчуць, што іх шмат. Толькі тады яны моцныя. І ў гэтым нашае з імі адрозненне. Еўрапейцу важнае крыху іншае — адчуць сваю каштоўнасць і свабоду, застаўшыся самому, без грамады. У гэтым яго моц. А моц вышыванчнага чалавека — ва ўзоры пад яго падбароддзем.*

Праблема нават не ў тым, што, пажыўшы ў Германіі, аўтар прапусціў нямецкую моду на нацыянальныя строі, якая не згасла і сёння, справа ў тым, што наогул нястача прадмета размовы нярэдка кампенсуецца імкненнем абагульніць нешта ў грандыёзным маштабе. У нацыянальным, а то і ў кантынентальным. Дапусцім — расказаць, што важна для еўрапейца. Бо еўрапеец жа — штуковіна простая і квадратная. Вось у яго патрэбы, а вось у яго ўласцівасці. Ідзі паспрачайся. А вось — вышыванчны чалавек. Нібыта ён ёсць, і нібыта для яго самае галоўнае ў жыцці — вышыванка. Прыдумаўшы такія сутнасці, ты становішся галоўным і адзіным экспертам у гэтай галіне. Напрыклад, па вышыванчных людзях. І вось твой тэкст ужо цагліна ў мур. А ты — муляр-будаўнік.

### Аўтар супастаўляе

*...увогуле ў папулярнасці вышыванак ёсць нешта паўночнакарэйскае. Тысяча абсалютна голых людзей будзе выглядаць больш індывідуальна, чым гэткая самая тысяча ў вышыванках.*

Ну, па-першае, ніколі не сустракаў словы «салідарнасць» і «статкавасць» у адным сінанімічным шэрагу. Калі тысячы людзей выходзяць з бел-чырвонабелымі сцягамі ці з папулярнымі зараз жоўта-блакітнымі стужкамі на вуліцу, ці ведаюць яны, што ўжо ўтварылі паўночнакарэйскі статак і выклікалі духа паныласці і калгаса? Не ведаюць. Магчыма, гэта не адбываецца, калі мільярды людзей купляюць сабе майкі са Спанч-Бобам, і адбываецца, калі з нацыянальнымі беларускімі арнаментамі.

### Аўтар адсылае да аўтарытэтаў

*Знаёмая літоўская літаратарка расказвала неяк пра першага пабачанага ёй у жыцці беларускага паэта. Прозвішча яна не запомніла. Вершаў таксама. І ніхто не запомніў. «Вершы былі такія самыя, як яго вышыванка... — сказала знаёмая. — Такія архаічныя. Вось вышыванку запомнілі ўсе. І з гэтым вы хочаце ў Еўропу?»*

Во як. І спытала яго аўтарка: вы з гэтым у маю Еўропу хочаце, Альгердзе? Альгерд, каторы таксама нічога не запомніў, у літаратарчыну Еўропу з гэтым не захацеў. А вось за суайчыннікаў яму стала страшна сорамна. Бачачы чэргі беларусаў, каторыя сціраюць лапці па дарозе на «Акропаліс», і нероўныя сляды, якія на пыльнай дарозе пакідаюць іх слуцкія паясы... Літоўскія гастарбайтары, якія як пчолкі працуюць на катэджах да самога Мінска, такіх прэтэнзіяў да нас не выстаўляюць, што і не дзіўна, бо літоўскую літаратарку не ведаюць. Але гэтае вечнае жаданне постсавецкага інтэлігента, таксама ж бездапаможнага, як і яго папярэднік, каб яго «прызналі за граніцай», жаданне «быць еўрапейскім».

Сорам за сваю дэпрэсіўную рэчаіснасць так моцна ўядаецца ў мозг, што там трансфармуецца у сорам і за мінулае, якое карціць каму-небудзь падарыць, і за сваю будучыню, якая становіцца прадметам пакаяння перад кожным балванам, які захоча зглядзь у суддзю. Сорам і джынсы.

### Аўтар іранізуе

*Навошта кніжкі чытаць, калі ёсць вышыванка? На ёй усё напісана, то бок вышыта. Ці намалявана, як тату на скуры. А больш беларусу ведаць неабавязкова.*

Як сказала беларуская рэкламшчыца Юля Ляшкевіч: «Навошта есці, калі спаць? Навошта Бахарэвіч, калі поўдзень? Навошта жыць, калі Марс?» У прынцыпе і ў мяне да аўтара, апрача названых, пытанняў больш няма.

### З цэлым народам гутарку весці

А вось вам (нам) яшчэ. Аляксандр Фядута заявіў, што беларуская нацыя — другасерыйная, а калі пад маркай вышыванкі прадаюць яшчэ і вопратку з прынтамі арнаментаў, то ўсё гэта бессэнсоўна і нічога не варта. Вышыванка павінна быць вышытай, «а калі не, то грош цана ўсім вашым развагам». Як у пушкініста, хочацца спытаць у яго — ці ёсць у яго майка з выявай Пушкіна і, калі так, то якая частка Пушкіна належыць персанальна яму? А наогул, як я і пісаў вышэй, прага мысліць нацыянальнымі катэгорыямі ўласціва людзям, каторыя мысляць катэгорыямі выключна.

Дапусцім, хіпаны рэанімiравалі ўзор «слёзы Алаха» ці «турэцкі агурок».

У Латвіі дызайнер Ліга Аўзіня выпусціла калекцыю вопраткі з нацыянальнымі латышскімі арнаментамі, якія ад беларускіх адрозніць няпроста.

Шатландская клетка замацавалася ў модзе, думаецца, назаўсёды.

Адыдас шые вушанкі.

Gorenje распісвае (не драўляныя) лядоўні пад хахламу, мода на скандынаўскія арнаменты паспела ўжо надакучыць і адрадзіцца не адзін раз.

Але ўсе гэта не важна. Важна, што ты павінен стварыць брыкет. Выказацца. Пра іх. Пра гэтых беларусаў. Што ім нельга і яны нейкія там — не тое, што я. І хай я не бачу розніцы паміж прыгожым і непрыгожым. Хай для мяне дзень смерці Высоцкага — гэта дата, а дзень смерці Караткевіча... не, не чуў. Затое я ўсё адно вам раскажу, што вы за нацыя і як вам жыць. Бо мне Пушкін ліру перадаў. Хоць і не да канца.

### Постсавецкі пост

Севярын Квяткоўскі напісаў, што вышыванкі звязаны з савецкім культам сялянскасці. Таму яны шкодныя для нашай нацыі, якая якраз прэтэндуе на элітарнасць і старажытнасць. Калі зразумець сутнасць прэтэнзіі, то хочацца спытаць: а што рабіць з тымі, у каго такіх асацыяцыяў няма? Дапусцім, нехта нарадзіўся ў 1991 годзе? Ці проста прапусціў савецкі культ сярпа да развалу СССР міма вачэй? У Савецкім Саюзе быў яшчэ і культ спорту, ці варта ўсім цяпер заплываць тлушчам з гэтай нагоды і на зло бабулі адмарожваць вушы?

### Культ каранёў

Людзі тыпу Бахарэвіча ўвесь час выводзяць новага чалавека. Учора падобныя яму выводзілі новага савецкага чалавека. Сёння — новага еўрапейскага. Прычым і савецкі быў як белы аркуш, і еўрапейскага выводзяць нейкага стэрыльнага. Без мінулага. Хто ён? У якой краіне ён жыве, гэты эталонны еўрапеец? Што гэты чалавек, які ў Беларусі павінен перамагчы, рабіў 300 гадоў таму? На якой мове гаварыў? Што пісаў? Што спяваў? На чым граў? Што еў? І што апранаў? Амерыкана-яўрэйска-нямецкія джынсы? Гавайскія кашулі? Індзейскія макасіны?

Ці абавязкова нам усім прайсці рытуал адрачэння ад вышыванчнага мінулага?

У кожнай вартай краіне свету культ сваіх каранёў з'яўляецца часткай нацыянальнай свядомасці. Часам ён прыгасае, але калі з'яўляецца выклік, калі ёсць пагроза, калі нацыя гуртуецца, ён адраджаецца. Толькі радасць адчуваю за прыгажосць вышыванкі і тых беларусаў, якія носяць іх тут і цяпер.

Гэтыя ўзоры жылі стагоддзямі. Яны бачылі рознае. Ляжалі, пыліліся, гнілі, брудзіліся. Іх апраналі на святы, іх апраналі ў самыя цяжкія дні.

Гэтыя маленькія ромбікі і квадрацікі дапамагаюць нам парадавацца, гледзячы адно на аднаго. Яны перадаюць усё, што мы хацелі б сказаць, і нават крыху болей.

Яны перажылі многае. Комплексы постсавецкія, не заўважыўшы, таксама перажывуць.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Світанак над Друяй — мястэчку на мяжы з Латвіяй. Друя стаіць на Дзвіне, і за ракой — Прыдруйск, па-латышску Piedruja. На сёння ў Друі засталося ўсяго 1300 жыхароў. А калісьці ж гэта быў моцны горад… Тут паставілі пры Полацку Барысаў камень. Тут былі пасля Сапегі. А ў XX ст. — кляштар марыянаў. На фота: драбіна каля каменя.**



**Дзясяткі тысяч мусульманаў у цэнтры Масквы адзначаюць Ураза-Байрам, першы дзень пасля заканчэння посту — адно з галоўных святаў у ісламе.**



**Такі арыгінальны малюнак на вароты ля дома нанёс адзін з жыхароў вёскі Старое Янчына Барысаўскага раёна.**



**Адзеты ў дакладную копію сярэднявечных даспехаў вершнік дэманструе сваё майстэрства ў разрубанні на поўным скаку качаноў капусты ў музейным комплексе «Дудуткі».**

## Анекдоты і жарты

* * *

Швейцарыя можа сем разоў змясціцца на тэрыторыі Цюменскай вобласці. Але не хоча.

* * *

— На якую спецыяльнасць прымаюць з трыма баламі па ЦТ?

— Вайсковы педагог!

* * *

Карупцыя не ведае межаў: на конкурсе «Міс Беларусь» перамог 44-гадовы пляменнік кіраўніка мясцовай адміністрацыі.

* * *

Калі ноччу выйсці на двор, легчы на зямлю і доўга глядзець на зорнае неба праз друшляк, то можна ўбачыць твар доктара хуткай дапамогі.

* * *

— І ўсё-такі шкада, што моладзь сённяшняя не чытае вялікай расійскай класікі. Не памятае, хто такія Дастаеўскі, Герцэн, Бялінскі! А Грыбаедаў!?

— Так, вы паглядзіце, колькі грыбаедаў сярод сучаснай моладзі.

* * *

– Чаго вы дасягнулі ў жыцці?

– Дна.

* * *

Дакладная прыкмета, што першае спатканне не атрымалася: дзяўчына пастаянна пазірае на гадзіннік, які сама намалявала на запясці.

* * *

У наш час дзяцей, што правініліся, ставяць у кут, у якім горш за ўсё ловіцца wi-fi.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Еxаў у концы ў г. Вільня** ніжні чын Б.Зубальскі і па дарозе дазваляў сабе вінаваціць расейскі ўрад за вайну з Нямеччынай, выказваючы, што ён хоча, каб немцы атрымалі верх над Расеяй. Публіка затрымала конку і склала пратакол. А галоўнакамандуючы такую палажыў рэзалюцыю: «Прымаючы пад увагу, што па судзе яму моцнай кары не належыцца, дык усыпаць Зубальскаму сто розаг, ды што называецца, а затым адправіць у сваю вайсковую часць у пярэднія рады».

**«НН». №30. 1914.**

**ЕГУ капітулявала без бою.** Кіраўніцтва Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта распачало працэс пераводу навучэнцаў у іншыя ВНУ. Рэктар ЕГУ паведаміў з Вашынгтона пра падтрымку былымі донарамі ўніверсітэта «новых праектаў», якія будуць выходзіць з асяроддзя ЕГУ. Студэнты засталіся сам-насам са сваёй праблемай, яны згадваюць прыклад Беларускага ліцэя.

**«НН». №28. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднаўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7250. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 29.07.2014.
Замова №2800.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

9 771819 161008 14028

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12